№ 32 (917) 26 жніўня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. Старонка 2.

## Адбываецца новая дэвальвацыя. Нацбанк «не будзе штучна рэгуляваць» курс. 18000

Старонка 2.

**Мікола Статкевіч:** У халуёў няма гонару, і яны не могуць зразумець чалавека, у якога ён ёсць. **Старонка 4.**

**Яўген Васьковіч:** У турме я добра засвоіў закон «Дастаў нож — рэж». **Старонка 5.**

# «Моцны мужык, нічога не скажаш!»

Разам са Статкевічам нечакана выйшлі на свабоду ўсе даўнія палітвязні. **Старонка 3.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Былы міністр просіць за катэдж у Драздах $1 400 000

**Віктар Галаванаў** узначальваў Міністэрства юстыцыі ў 2001—2011. **Старонка 6.**

## Украіна, якая моліцца на беларускіх турыстаў

Вялікі рэпартаж **Андрэя Дынько** з Затокі, Адэсы, Карпат, Кіева. Старонкі 12—14.

## Арыштаваны мільянер Уладзімір Япрынцаў

**Юрый Чыж** не каментуе. **Старонка 7.**

# 18000

Даляр у абменніках прадаюць за 18000—18300 рублёў, **еўра — 20800—21500**.

Афіцыйны курс даляра па стане на 26 жніўня складаў 17 836 рублёў, еўра — 20 474 рублёў. За апошні тыдзень беларускі рубель патаннеў у адносінах да даляра і еўра на 10% і 14% адпаведна. Што гэта, чаму і да якой мяжы?

Нацбанк у складанай сітуацыі паводзіць сябе адэкватна рэаліям. Даляр не трымаюць уручную, але і не прывязваюцца наўпрост да расійскага рубля. «Палітыка ў галіне курсаўтварэння асабіста ў мяне пытанняў не выклікае. І насамрэч плаваючы курс — гэта найбольш адэкватны рэжым», — мяркуе старшы аналітык кампаніі «Альпары» Вадзім Ёсуб.

Беларускія банкі пры гэтым не збіраюцца ўводзіць абмежаванні, па стане на аўторак валюта была ва ўсіх абменніках.

Пытанні не да Нацбанка, а да лукашэнкаўскай мадэлі беларускай эканомікі, завязанай на Расіі і яе энерганосьбітах. Любы крызіс ва ўсходняй суседкі адразу ж б'е па Беларусі.

«Расія — гэта бензакалонка, якая прыкідваецца дзяржавай», — жарт амерыканскага сенатара Джона Макейна паспеў стаць афарызмам. Расійскі рубель насамрэч таннее прапарцыйна нафце. Ад пачатку года курс расійскай валюты да даляра вылічваецца па формуле: «95,1 — 0,652 * бараль маркі Brent». Пры цяперашніх $44 (па стане на 25 жніўня) за бараль даляр каштаваў бы каля 66—67 расійскіх рублёў. Аднак накладаюцца і іншыя фактары: напрыклад, падзенне кітайскай эканомікі і лёгкая паніка.

Нацбанк трымае расійскі рубель на ўзроўні 250 беларускіх рублёў, але для экспарцёраў гэтага замала. Прамысловым гігантам будзе выгадней прадаваць прадукцыю на ўсход па курсе 280—290 беларускіх рублёў.

Імпарцёры ўжо адрэагавалі на дэвальвацыю. Крамы тэхнікі павялічылі цэны прапарцыйна росту валют. Тавары першай неабходнасці будуць даражэць з адтэрміноўкай на месяц-другі.

**ЯМ**

# Упершыню прэзідэнцкія выбары ў Беларусі пройдуць без адкрыта апазіцыйных кандыдатаў

Тацццяна **Караткевіч не крытыкуе** Лукашэнку.

На прэзідэнцкія выбары збіраюцца ісці пяцёра кандыдатаў. Аляксандр Лукашэнка, Тацццяна Караткевіч, Сяргей Гайдукевіч, Віктар Цярэшчанка і Мікалай Улаховіч здалі сабраныя подпісы на праверку ў Цэнтрвыбаркам.

Упершыню прэзідэнцкія выбары ў Беларусі пройдуць фактычна без адкрытай крытыкі прэзідэнта. Раней такія выбары мелі месца толькі ў Казахстане і краінах Цэнтральнай Азіі.

### Апазіцыя апалчылася на Караткевіч

Тацццяна Караткевіч выйшла з апазіцыйных структур, але на выбары ідзе, не крытыкуючы Аляксандра Лукашэнку. Кіраўнік яе штаба Андрэй Дзмітрыеў заявіў, што ўдалося сабраць 107 тысяч подпісаў, палову з якіх — у Мінску.

Грамадзянская супольнасць падняла агучаную лічбу на смех. Рух «За свабоду» заклікаў Дзмітрыева і Караткевіч аддаць сабраныя подпісы на незалежную грамадскую праверку.

Тым часам старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч прызнаўся, што па ўсёй краіне актывісты яго партыі сабралі за Караткевіч толькі 10 300 подпісаў.

Акрамя БНФ, у камандзе Караткевіч працавалі актывісты сацыял-дэмакратаў — пераважна ў Брэсцкай вобласці і Віцебску, а таксама ўласна сама малалікая кампанія «Гавары праўду». Няўжо яны адолелі астатнія 97 тысяч, калі цэлы БНФ набраў усяго 10 300?

«Тацццяна ператвараецца ў пластмасавую лялльку, прычым камсамольскую пластмасавую лялльку», — заявіў у інтэрв'ю радыё «Свабода» Уладзімір Някляеў.




Анатоль Лябедзька прызнаўся, што не змог сабраць 100 тысяч подпісаў.

Затое кандыдатку на словах падтрымала... старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. «Вельмі рада перадусім за спадарыню Караткевіч з прычыны таго, што гэта першы ў гісторыі сучаснай Беларусі магчымы кандыдат у прэзідэнты — жанчына. Зычу поспехаў гэтаму кандыдату. Менавіта яна з'яўляецца тым новым, асаблівым паваротным момантам у гісторыі выбараў прэзідэнта Беларусі — перадусім таму што яна жанчына», — заявіла Ярмошына.

### Лябедзька і Калякін не сабралі подпісаў

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька шчыра прызнаўся, што яму ўдалося сабраць толькі каля 50 тысяч подпісаў. Старшыня АГП шкадуе толькі аб тым, што страціць магчымасць выступіць на дзяржаўным тэлебачанні. «Па ўсіх іншых пунктах праца будзе працягвацца ў такім самым рэжыме. Магчыма, пачнем збор подпісаў за адстаўку ўрада і старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай».

Пра выхад з кампаніі заявіў і кіраўнік «Справядлівага свету» Сяргей Калякін. Калякін таксама не верыць у Караткевіч і заклікаў сваіх прыхільнікаў галасаваць супраць усіх.

### Спарынг-партнёры б'юцца між сабой

Ні Сяргей Гайдукевіч, ні Віктар Цярэшчанка, ні Мікалай Улаховіч ні словам не крытыкуюць Аляксандра Лукашэнку, але змагаюцца між сабой. Лічбамі.

Дастаткова прывесці некалькі прыкладаў. Цярэшчанка дэкларуе, што ў яго падтрымку ў Мінску падпісаліся... 82 тысячы чалавек! «Наша Ніва» ў папярэдніх нумарах друкавала рэпартажы з ягоных пікетаў — нанятыя студэнты не ведалі праграмы свайго кандыдата.

Штаб Цярэшчанкі агучваў настолькі вялікія лічбы подпісаў, што давялося змяншаць іх колькасць. За тыдзень да фінальнай даты ён хваліўся 135 тысячамі аўтографаў, а ў выніку нібыта аднёс у ЦВК 130 тысяч.

Каманда Мікалая Улаховіча заяўляла, што збірае штодня па 4 тысячы подпісаў. Смех дый годзе — у падтрымку ражанага казацкага атамана некалькі дзён стаяў адзін на ўсю краіну пікет, а зборшчыкаў па кватэрах не бачыў ніхто. Але ў апошні дзень падачы дакументаў Улаховіча нібы прарвала — у абед ён дэклараваў 130 тысяч, а ў выніку занёс усе 160 тысяч.

Гэтым ён «падставіў» вечнага кандыдата Сяргея Гайдукевіча, які быў перакананы, што здадзеныя 142 тысячы гарантуюць яму другое месца.

**Ягор Марціновіч**

### Апытанне на nn.by

**Ці падтрымалі б Вы абмежаванне продажу расійскага алкаголю ў Беларусі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 676 | 76% |
| Не | 74 | 8% |
| Мне ўсё адно | 137 | 16% |

Агулам пададзена 887 галасоў.

### Самае чытанае на nn.by за 19—25 жніўня

1 Сотні людзей сустракалі Статкевіча ў Мінску скандаваннем «Герой!»
2 Фота жанчыны пасля кесаравага сячэння ўскалыхнула інтэрнэт
3 Украіна, якая моліцца на беларускіх турыстаў — вялікі рэпартаж з Затокі, Адэсы, Карпат, Кіева
4 Анлайн з Міколам Статкевічам
5 Вызвалены ўсе асуджаныя палітвязні, у тым ліку Статкевіч, Васьковіч і Рубцоў
6 Жонка расійскага вайскоўца распытвае ў інтэрнэце пра Баранавічы: «Там будзе стаяць наш полк»
7 Пяць фактаў пра мільянера Уладзіміра Япрынцава, арыштаванага КДБ
8 Ветэран пацалаваў кавун, прывезены Колем Лукашэнкам
9 Што пішуць тролі пра новую дэвальвацыю беларускага рубля? Гэта песня!
10 КДБ арыштаваў партнёра Чыжа Уладзіміра Япрынцава і ягоны катэдж у Драздах

# Усе асуджаныя палітвязні выйшлі на волю

**Праціўнікі Аляксандра Лукашэнкі так і не напісалі прашэнняў аб памілаванні.**


Марына Адамовіч дачакалася мужа.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Гэтым разам палітвязняў вызвалілі не па адным, як бывала раней, а ўсіх адным махам. Дакладней, росчыркам пяра Аляксандра Лукашэнкі. 22 жніўня пасля абеду на сайце дзяржаўнага тэлеграфнага агенцтва БелТА з'явілася навіна: «Зыходзячы з прынцыпу гуманізму, прэзідэнт Беларусі прыняў рашэнне аб памілаванні і вызваленні з месцаў пазбаўлення волі Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча, Мікалая Статкевіча, Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенкі, Юрыя Рубцова».

Прыкладна ў гэты самы час вязняў выводзілі за брамы іх калоній і турмаў. Прычым, як правіла, канваіры нічога не паведамлялі асуджаным. Да апошняга не кажучы, што тых вызваляюць.

Апошні вязень Плошчы-2010 Мікола Статкевіч адразу патэлефанаваў жонцы Марыне Адамовіч, што ён маршруткай едзе дадому.

Марына, каб сустрэць мужа, за дзве гадзіны адолела шлях да Мінска ў 200 кіламетраў, яна была ва Ушацкім раёне. Прыехала літаральна за пару хвілін да прыходу магілёўскага мікрааўтобуса.

За лічаныя гадзіны на аўтавакзал «Усходні» сабралася чалавек 500. Сярод іх было нямнога палітыкаў. Напрыклад, ніводнага патэнцыйнага кандыдата ў прэзідэнты. Прыйшлі звычайныя людзі, што натхніліся прыкладам Статкевіча. Многія былі з кветкамі. Нават узнялі бел-чырвона-белы сцяг. Гэтак шматлікія палітвязняў яшчэ не сустракалі. Мікола выскачыў з мікрааўтобуса, яго адразу ўзялі ў шчыльнае кола. Апладысменты, скандаванне «Герой!» і «Жыве Беларусь!», нават адкаркавалі шампанскае.

Турма часта мяняе людзей, і не заўсёды ў лепшы бок. Але гэта не выпадак Статкевіча. «Статкевіч феерычны, — кажа гісторык Аляксандр Пашкевіч. — Вясёлы, жыццярадасны, энергічны. Нібыта не з турмы вярнуўся, а з адпачынку. Моцны мужык, нічога не скажаш! Што ж, сёння ў беларускай дэмакратычнай супольнасці ўнікальны шанец, каб займець нарэшце сапраўднага моцнага лідара. А наколькі ён будзе скарыстаны — шмат ад самога Статкевіча залежыць. Вельмі хацелася б не расчаравацца чарговы раз».

«Маё вызваленне звязана з тым, што ў дыктатуры скончыліся грошы», — як адрэзаў яшчэ на вакзале Статкевіч.

«Ні за што не з'еду з Беларусі. Я буду змагацца за нармальную краіну. Мы разам зробім Беларусь нармальнай і вольнай», — абяцае ён.

Шмат каму было цікава, што ж скажа Статкевіч пра цяперашнюю выбарчую кампанію.

«Улады сфабрыкавалі спіс кандыдатаў у прэзідэнты яшчэ да пачатку прэзідэнцкай гонкі, таму павінны пачаць выбарчую кампанію нанова».

На думку экс-палітвязня, для дэмакратычнага выбаршчыка ў сёлетніх выбарах не засталося кандыдата, якога можна было б падтрымаць. Калі ж людзей усё ж будуць заганяць на галасаванне, то ён рэкамендуе проста галасаваць супраць усіх і пісаць у бюлетэнях прозвішчы апазіцыйных палітыкаў ці «Жыве Беларусь».

Варта адзначыць, што Статкевіч 8 (!) гадоў будзе знаходзіцца пад прафілактычным наглядам. Гэта значыць, яму нельга будзе выязджаць з дому даўжэй, чым на 30 дзён, а штомесяц трэба будзе адзначацца ў міліцыі.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**


**Эмацыйны Арцём Пракапенка на волі. Людзям, што сустракалі яго на вакзале, ён адразу гукнуў: «Жыве Беларусь!»**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Рубцоў больш не будзе насіць майку «Лукашэнка, сыходзь»

У турме шафёр Юрый Рубцоў моцна схуднеў, бо трымаў галадоўкі.

«Наша Ніва» звязалася з былым палітвязнем, акурат у той момант, калі ён выходзіў з гомельскай міліцыі.

«Яшчэ два гады буду пад прафілактычным наглядам, хлопцы, — пачаў Юрый. — Трэ' будзе адзначацца».

Мужчына па-ранейшаму трымаецца пазіцыі, што ён невінаваты. А справа супраць яго — штучна сфабрыкаваная. Праўда, адзяваць майку з заклікам «Лукашэнка, сыходзь» Юрый пасля вызвалення больш не збіраецца.

«Маю ініцыятыву не падхапілі людзі. А мне аднаму выглядаць белай варонай сярод астатніх не хочацца. Каб гэтую майку адзявалі 5 мільёнаў чалавек, то Лукашэнка ўбачыў бы, што пра яго думаюць», — перакананы Юрый.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Мікалай Дзядок: «Хачу, каб гэта не аказалася сном»

Былы палітвязень даў першае інтэрв'ю «Нашай Ніве».

**«Наша Ніва»: Як даведаліся пра вызваленне?**

**Мікалай Дзядок:** Калі падводзілі да брамы і аддалі ўсе рэчы. Калі выводзілі з камеры, гэта было пад сакрэтам.

**«НН»: Апошнім часам не прапаноўвалі прашэнне аб памілаванні пісаць?**

**МД:** Не. Прашэнне прапаноўвалі пісаць толькі адзін раз у 2011 годзе. З таго часу — ні разу. Стаўленне адміністрацыі не змянялася. Як сядзеў, так і сядзеў. Вызваленне стала нечаканасцю.

**«НН»: Пасля прэс-канферэнцыі Лукашэнкі чакалі вызвалення?**

**МД:** Такіх абяцанняў і намёкаў было вельмі шмат, таму намагаўся асабліва не даваць сабе надзею. Я падрыхтаваўся, хутчэй, да працягу тэрміну.

**«НН»: Што было самым цяжкім?**

**МД:** Калі адкажу, на гэта будуць ціснуць астатнім. Таму лепш не скажу *(смяецца)*. Калі ёсць падтрымка, няма асабліва нічога цяжкага. Адчувалася каласальная падтрымка з першага дня да апошняга. У апошні дзень я атрымаў з дзясятак лістоў з віншаваннямі з днём нараджэння, нават не паспеў іх прачытаць!

**«НН»: Вы цяпер так добра размаўляеце па-беларуску!**

**МД:** Да турмы я пераважна размаўляў па-руску. Але цяпер чытаў пераважна беларускамоўную прэсу. Неяк яно так і атрымалася.

**«НН»: Якое галоўнае жаданне?**

**МД:** Каб гэта не аказалася сном.

**Гутарыў ЗП**

**Цытата**

### Аліневіч: Рана ці позна будзе выбух

«Мы патрапілі пад «раздачу» тады, калі ўсе іншыя апазіцыйныя сілы сцішыліся. Мяркую, насамрэч улада асабліва не выбірае, на каго абрынуцца паводле ідэалагічнай прыкметы. Для яе важна спыніць, сцішыць любую палітычную актыўнасць», — сказаў экс-палітвязень Ігар Аліневіч у інтэрв'ю радыё «Свабода».



На ўдакладненне, ці дае гэта вынік, Аліневіч адказаў: «Гэта дае тое, што становішча толькі горшае, грамадства заганяецца ў тупік, і рана ці позна выбух будзе».

## Адных адпусцілі, іншых — пасадзілі

Максіму Пякарскаму і Вадзіму Жаромскаму выставілі абвінавачванні па ч. 2 арт. 339 Крымінальнага кодэкса — «Хуліганства, здзейсненае групай асобаў» за нанясенне беларускамоўных графіці і запэцкванне білборда.

Ці выстаўленыя абвінавачванні Вячаславу Касінераву, які знаходзіцца ў шпіталі, невядома. Яраслаў Ульяненкаў застаецца ў статусе падазраванага.

Апроч таго, графіцістам пагражае яшчэ адна крымінальная справа за «распальванне расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці або розні». Канчатковая выснова будзе зроблена пасля заключэння псіхолага-лінгвістычнай экспертызы. Маўляў, яны пакідалі ў інтэрнэце каментары, якія абражаюць пачуцці ветэранаў.

Праваабаронцы аднязначна прызналі хлопцаў палітвязнямі і лічаць абвінавачванні надуманымі.

**ЗП**



**Злева направа: Яраслаў Ульяненкаў, Вячаслаў Касінераў і Вадзім Жаромскі.**

# Статкевіч: **У халуёў няма гонару, і яны не могуць зразумець чалавека, у якога ён ёсць**

Праз дзень пасля вызвалення Мікалай Статкевіч **адказваў на пытанні журналістаў і чытачоў «Нашай Нівы».** Прапануем вашай увазе частку адказаў палітыка.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Якія першыя ўражанні пасля вызвалення з турмы? Можа, нешта засмуціла, а што абрадавала?**

**Мікалай Статкевіч:** У мяне было два вельмі моцныя ўражанні цягам першых гадзін на волі. Першае — негатыўнае. Як толькі мяне пасадзілі ў аўтобус, я папрасіў у кіроўцы мабільны, каб пазваніць сваякам. Ён ведаў, што я няпросты зэк, і напалохаўся. У выніку я ўзяў мабільны ў нейкай дзяўчынкі, што сядзела побач. Размаўляў па-беларуску з бацькам і жонкай. У размове ўжыў слова «самазванец». І салон адразу заціх. Узнікла напружанне і страх. У маршрутцы ехалі звычайныя людзі з Бялыніч, Беразіна і іншых гарадоў. Узнікла адчуванне забітай і запалоханай краіны. Думаю: што ж я ўбачу ў Мінску? Да чаго давялі гэты няшчасны народ.

Едзем-едзем — і тут тэлефанаванне кіроўцу, ён увесь спалохаўся: «Каго ты там вязеш? Сто чалавек ужо сабралася сустракаць!» Я ж думаў, што ў цудоўны суботні жнівеньскі вечар добра калі Марына чалавека якога знойдзе, каб рэчы дапамог давезці, можа, журналіст які знойдзецца... Я выйшаў з аўтобуса і ўбачыў сотні людзей. Вольных, смелых, мужных. Гэта было каласальнае ўражанне. Я вельмі ўдзячны тым людзям, што прыйшлі на вакзал.

**«НН»: А як Вы ўяўлялі ўласнае вызваленне?**

**МС:** Я яго крыху пабойваўся. Думаў, што ўсё так прыкладна і адбудзецца. Хіба што лічыў, што вызваляць уначы і пасадзяць на цягнік. Яны зрабілі хутчэй. Купілі за мае грошы білет і пасадзілі ў аўтобус. Я баяўся, як буду на ўсё рэагаваць. Нават пасля ШІЗА, як вяртаешся ў камеру, то дзень гаварлівасці забяспечаны.

**«НН»: Адзіночка — цяжкае выпрабаванне?**

**МС:** Адзіночка давала большую загартаванасць. Я разумеў усю небяспеку турмы, супрацьстаяў гэтаму марудналу забойству. Я ведаў, якімі людзі бываюць пасля «крыткі».

Я змагаўся з гэтым з вялікім запасам. Мае фізічныя параметры добрыя. Нядаўна памералі ціск, дык ён быў 120 на 80. У некаторым плане я нашмат слабейшы, чым быў да турмы, у некаторым плане — мацнейшы.

**«НН»: А як трэніраваліся?**

**МС:** Было чатыры трэніроўкі за дзень. Я баяўся перагрузіць сэрца. Пасля пад'ёму абавязковая размінка ўсіх суставаў. Пасля на прагулцы ў турэмным дворыку прысяданні і адцісканні са становішча седзячы. Рабіў тры-чатыры падыходы з інтэрвалам у некалькі хвілін.

На трэцяй трэніроўцы ў камеры я развіваў прэс, мышцы спіны. Нават клаўся для гэтага на ложак, зайваг не атрымліваў, хоць і было забаронена. Пасля была імітацыя падцягвання на нарах.

Перад вячэрай рабіў адцісканні. Апроч гэтага я хадзіў пастаянна ўзад-уперад. Займаўся паставай. Нават крыху дыхцыяй. Увесь час там трэба быць занятым. Ставіць задачы па самаўдасканаленні.

**«НН»: Заставацца адзін на адзін з думкамі нельга?**

**МС:** Самае галоўнае — не пачынаць сябе шкадаваць. Або думаць, што там трава, дрэвы, свабоды, як хочацца туды... Шчыра кажучы, я адчуваў, наколькі мне ўсё ж лягчэй за тых, хто асуджаны па крымінальнай справе.

**«НН»: Чаму?**

**МС:** Бо гэтыя людзі здзейснілі нейкае злачынства, яны пакутуюць на нейкія згрызоты сумлення, адчуваюць марнасць жыцця. Я разумеў, што ў той прамежак жыцця, проста знаходзячыся там і не пішучы прашэнне аб памілаванні, рабіў болей, чым мог на свабодзе.

**«НН»: Няма цяпер жадання адпачыць?**

**МС:** Мой арганізм мабілізаваны, ён сам сябе падтрымлівае. Я добра сябе адчуваю. Калі пачнецца расслабленне, будзе небяспечны момант. Памятаецца, пасля «хіміі», калі я вырашыў першасныя пытанні, у бацькі на кватэры трое сутак спаў. Мабыць, будзе нешта падобнае і цяпер. Спадзяюся, што займею малы перыяд часу з'ездзіць бліжэй да мора, падыхаць паветрам, паляжаць пад дрэвамі.

**«НН»: З чым Вы звязваеце датэрміновае вызваленне?**

**МС:** З цяжкай эканамічнай сітуацыяй. Выбары тут нават другасныя. На ўтрыманне дыктатуры няма грошай, і іх трэба атрымаць. Я зусім не веру ў лібералізацыю. Бо нават мінімальныя крокі ў гэтым кірунку прывядуць да змены сістэмы. Але ўлады хочуць зымітаваць лібералізацыю, каб нармалізаваць адносіны з Захадам, атрымаць крэдыты. Нават калі крэдыты зацягнуцца, то так можна напалохаць Маскву. І Крэмль раскашэліцца вельмі хутка. Пакуль Расія не пазбавіцца сваіх комплексаў, гэта схема будзе працаваць. Ці пакуль Захад не зразумее, што гэты рэжым не пераменіцца.

**«НН»: Пасля падзей ва Украіне ходзіць меркаванне, што абдымацца можна хоць з чортам.**

**МС:** Яны даабдымаюцца. Як можна бачыць у Лукашэнку гаранта незалежнасці? Гэты чалавек 20 гадоў знішчаў усё беларускае. Ён разглядае краіну як сваю маёмасць, і ён будзе абараняць гэтую маёмасць. Але гінуць за яе не стане. Калі будзе крытычная сітуацыя, то аддасць за паўцаны.

**«НН»: Вам удавалася сачыць за падзеямі ва Украіне? Якая Ваша думка на гэты конт?**

**МС:** У мяне быў перыяд, калі ў камеры быў тэлевізар. Безумоўна, я бачыў усю гэтую істэрыку, бруд на расійскіх тэлеканалах. Гэта жахліва. Але я разумею матывы гэтага. Безадказны кіраўнік заўсёды можа стварыць такую эйфарыю. Але якім будзе наш свет, калі кіраўнікі так сябе паводзяць? А людзі элементарна купляюцца на ўсё. Праўда, праз пару гадоў у Расіі можа прачнуцца галоўны інстынкт — інстынкт голаду. Я ўспамінаю 1914 год і хвалю ўрапатрыятызму ў Расіі пасля пачатку вайны, і мы памятаем, што здарылася з кіраўніцтвам Расіі праз 2,5 года. Толькі таму што ў булачныя Піцера не завезлі белага хлеба.

**«НН»: Вы плануеце ствараць нейкі новы рух?**

**МС:** Я меў за кароткі час на волі сустрэчы з годнымі людзьмі. Гэта Уладзімір Някляеў, Анатоль Лябедзька. Размаўляў з Паўлам Севярынцам па тэлефоне. Ніхто з нас не ідэальны, мы ўсе амбітныя людзі. Без амбіцый у палітыцы нічога не бывае. Але прыйшоў той час, калі ёсць першасныя рэчы. Мы ўсе ставім на першае месца інтарэсы краіны. Мы ўсе шукаем выйсця з той сітуацыі, у якую трапіла Беларусь. Я не кажу, што Статкевіч выйшаў і хоча аб'яднаць здаровую частку апазіцыі. Я кажу, што здаровая частка апазіцыі хоча скарыстаць Статкевічаў «тыдзень славы», каб агучыць агульную пазіцыю. Я на 90% упэўнены, што цягам некалькіх дзён мы агучым яе. Але немагчыма аб'яднаць усю апазіцыю, бо значная яе частка гуляе ў падтанцоўкі з уладай.

**«НН»: Злоснікі будуць укладаць і сілы, і грошы, каб такой еднасці не было.**

**МС:** Усе названыя мной людзі — дасведчаныя і збітыя-перабітыя. Яны трымалі ўдар у цяжкой сітуацыі. Не думаю, што кагосьці з нас будзе лёгка падмануць. Думаю, што нават гаворку пра няроўнасць суб'ектаў у гэтым аб'яднанні заводзіць не варта. А пытанне лідарства можа часова трымаць любы, хто выйдзе наперад.

**«НН»: Ці адчуваеце Вы, што сёння адказнасць перад Вамі яшчэ большая, чым у той час, як Вы сядзелі ў турме?**

**МС:** Вы вельмі дакладна сфармулявалі мае пачуцці. Дадаць больш няма чаго.

**«НН»: Лукашэнка, калі Вас згадваў, казаў, што «Статкевіч сядзіць, каб быць героем». Праўда?**

**МС:** Гэта нейкае смешнае дзіцячае жаданне. Яны ўвесь час спрабавалі знайсці мае матывы. І датрымаліся да памылкі. Выпусці мяне ўвосень 2011 года — пра мяне б усе забыліся. Але яны шукалі прагматычныя матывы. Маўляў, Статкевіч зразумее, што яму кандыдацтва нічога не дало, і падпіша прашэнне. Насамрэч, яны не разумеюць адных: у вялікай колькасці людзей асноўнае жаданне — застацца прыстойным чалавекам. У сваіх вачах, у вачах родных. Безумоўна, хацелі зламаць, але нахіліліся самі. Нахіліліся за грашыма ці чым яшчэ, але здаліся яны, а не я. Мяне вывучалі гадамі, але не змаглі спрагназаваць простыя рэчы. У камеры са мной сядзеў псіхолаг, які раз на два-тры дні пісаў вялікія лісты пра мяне. Каб зразумець чалавека, трэба да яго прыпадобніцца. Але яны не здольныя да гэтага, бо нізкія людзі. Яны разумеюць толькі прымітыўныя, прыземленыя матывы, бо мяркуюць па сабе. Для такога чалавека гонар, годнасць, краіна, нацыя, тое, што я называю родавым пачуццём, нічога не значаць. Тыя людзі, што сёння ў кіраўніцтве краіны, у халуях, яны проста не такія, як мы, яны іншыя. У халуёў няма гонару, і яны не могуць зразумець чалавека, у якога гонар ёсць.

**«НН»: Што Вы адчулі, калі Саннікаў падпісаў прашэнне?**

**МС:** Я з павагай стаўлюся да Андрэя. Мне нават няёмка, але я не лічыў яго здатным да тых паводзін, якія ён прадэманстраваў 19 снежня. Ён годна трымаўся ў неймаверна цяжкіх умовах. У кожнага чалавека ёсць свая мяжа. Я не магу яго судзіць, тым больш ён не выступаў на ТБ, не пісаў даносаў. Для сябе я разумеў, што такое не зраблю ніколі. У нас розны досвед, ступень трэніраванасці... Ад снежня 2011 года, калі Саннікаў напісаў прашэнне, і да лютага 2012-га ішоў найбольшы ціск на мяне. Мабыць, лічылі, што пакідаць аднаго мяне героем — не варта. Хацелі, каб мы двое выйшлі. За тое, што Саннікаў зрабіў у дзень выбараў, я здымаю капялюш. Перад ім і яго жонкай. Наколькі нізка ціснуць праз дзіцё... У цябе што, самога дзяцей няма? Ты на што іх выракаеш?

**«НН»: Ці былі ў Вас у турме моманты адчаю?**

**МС:** Не, не было. Былі цяжкія перыяды. Я расцэньваю іх сапраўды як слабасць. Гэта была галадоўка ў «амерыканцы». Па сутнасці, дзякуючы гэтай галадоўцы я ўратаваў шмат каго з сваёй каманды ад турмы, ды і сябе ад здзекаў людзей у масках. Чалавек не здольны ж галадаць тры месяцы, толькі тры тыдні, а далей ужо ідуць незваротныя працэсы. Я здаровы дзядзька, але мне не 20 гадоў, дарыўшы за падрабязнасці, і я не чакаў такой рэакцыі арганізма. Увесь час ідзе сліня, немагчыма нават спаць. Гэта так вымотвае. Нават у адзін момант думка ўзнікла: «Хутчэй бы Божанька прыбраў». Вось гэта была слабасць.

Калі спыняў галадоўку, то гэта ўжо не была слабасць, а выбар. Мяне адвезлі ў турму КДБ, дзе сказалі: «Мы вам памерці не дамо, іголка, кропельніца. Калі вы станеце інвалідам, я абяцаю, мы вас выпусцім». І я прыняў рашэнне сам спыніць галадоўку. Я не хацеў рабіцца інвалідам. Больш і ўзгадаць няма чаго. Наш рай і пекла ўнутры нас. Калі ты разумееш, што твой выклік правільны, то з'яўляюцца сілы. Гэта як вайна, як барацьба. А я здолею, я мацнейшы, я перамагу.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Яўген Васьковіч: У турме я добра засвоіў закон «Дастаў нож — рэж»

Як змяніла турма **самага маладога палітвязня**? «Наша Ніва» пагутарыла з Яўгенам пасля вызвалення.



**Яўген Васьковіч**

Нар. у 1990 у Бабруйску. Быў затрыманы 17 студзеня 2011 г., асуджаны ў маі 2011 разам з Арцёмам Пракапенкам і Паўлам Сырамалотавым да 7 гадоў зняволення паводле абвінавачання ў спробе падпалу дзвярэй бабруйскага аддзялення КДБ у 2010. Большую частку зняволення ён правёў у крытай турме ў поўнай ізаляцыі ад свету. Шмат разоў яго кідалі ў карцар (прабыў там агулам больш за восем месяцаў), выбівалі прашэнне аб памілаванні. Палітвязень правёў у Магілёўскай турме строгага рэжыму максімальны тэрмін як «злосны парушальнік рэжыму».

Яўген Васьковіч — самы малады з палітвязняў, вызваленых на мінулым тыдні. Калі хлопец трапіў за краты, яму было толькі 19 гадоў. Яго асудзілі за кінутую ў будынак бабруйскага КДБ бутэльку з напалмам. Што змянілася ў хлопцы за час зняволення і навошта ён пяць гадоў таму пайшоў на злачынства?

Яўген — жыццярадасны хлопец з непаўторнай усмешкай ва ўвесь твар. Адзінае, што сведчыць пра некалькі гадоў за кратамі, — гэта яго залішняя худзізна. У астатнім Яўген — хлопец як хлопец сваіх гадоў. Але гэта толькі вонкавы выгляд — турма пакінула адбітак унутры.

«Але я ні аб чым не шкадую, — пачынае гутарку Яўген. — На той час, 2010 год, я быў маладым радыкалам, якога вабілі актыўныя дзеянні. Дэмакратычная супольнасць маю прагу задаволіць не магла, таму я пасябраваў з анархістамі, і ў выніку дайшло да таго, што мы сёння маем».

Хлопец пачынае расказваць, як і для чаго ён з паплечнікамі рыхтаваў напад на бабруйскі КДБ.

«Тады перад намі не стаяла мэта нанесці максімальную шкоду, не. Мы хацелі дамагчыся псіхалагічнага эфекту ў адказ на затрыманне анархістаў у Мінску. Маўляў, хтосьці атакуе будынкі КДБ, а іх не могуць злавіць. Мы ж хацелі правесці цэлую серыю такіх акцый: у Баранавічах, Маладзечне... А што да метадаў, то ўсё было прымітыўна — мы вычыталі ў інтэрнэце рэцэпт напалму, месяц рыхтаваліся, а ў тую самую ноч нацягнулі на твар медычныя маскі і кінулі бутэлькі на падворак КДБ. Пра канспірацыю тады нават не думалася.

Гэта потым, на судзе, я даведаўся, што вялі нас доўга, а ў падвале, дзе мы рабілі напалм, стаяла праслухоўка», — успамінае Яўген і падкрэслівае, што затрымлівалі яго не брутальна, а «па-інтэлігенцку».

«Я якраз да сесіі рыхтаваўся, прыехаў у Магілёў. А тут удвух заходзяць супрацоўнікі і культурна так кажуць: збірайся. А я спачатку не зразумеў, у чым справа — з акцыі ж тры месяцы ўжо мінула. Я і думаць забыўся, што за гэта яшчэ могуць прыцягнуць. Але потым усё ўцяміў і на наступны ж дзень прызнаў віну. Бо ў нас з хлопцамі быў план, што калі мы бачым, што ў міліцыі ёсць доказы вінаватасці, то адразу прызнаёмся і прыцягваем увагу грамадскасці».

**Справа анархістаў**

Па ёй у 2011 былі асуджаныя Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок і Аляксандр Францкевіч. Маладыя людзі былі абвінавачаныя ва ўчыненні шэрагу нападаў на будынкі і падпалаў, у прыватнасці ў правядзенні несанкцыянаванай антываеннай акцыі каля будынка Мінабароны ў 2009 годзе, закідванні бутэлькамі з запальнай сумессю тэрыторыі пасольства Расіі ў Мінску і ізалятара на Акрэсціна ў 2010. Аліневіч атрымаў 8 гадоў зняволення, Дзядок — 4,5, Францкевіч — 3. У знак салідарнасці з імі здзейснілі сваю акцыю бабруйскія анархісты.



**У турме Васьковіч зрабіў тату: совы — гэта з грэчаскай міфалогіі, сімвал мудрасці, Ярылаў крыж, які сімвалізуе нязломнасць. А словы — яго асабісты дэвіз: «Розум, воля, перамога» па-грэчаску. І дзве «славянскія руны».**

## Пра турму былі рамантычныя ўяўленні

Хлопец расказвае, што маральна рыхтаваўся да вялікага тэрміну ўжо ў СІЗА.

«Я ведаў папярэдне, колькі мне маглі даць. Максімум — 12 год. Таму яшчэ добра, што далі «мінімалку». Ды і, канечне, на судзе не было поўнага ўсведамлення таго, што ж такое турма. Былі нейкія там рамантычныя ўяўленні, але потым выявілася, што яны памылковыя», — кажа Яўген і прыгадвае самы пачатак турэмнага шляху.

«Першы дзень на зоне быў шалёны: я толькі з этапа, галава трашчыць, а ўвесь «каранцін» выводзяць на вуліцу маршыраваць. Нібыта войска, а не турма.

А потым я адразу на ШІЗА паехаў, бо кантралёру не спадабаўся мой каталіцкі ружанец — той палічыў яго «зэкаўскім» і загадаў аддаць, а я адмовіўся», — расказвае хлопец.

Увогуле, Яўгену давялося сядзець у штрафным ізалятары штомесяц па дзесяць дзён — у гэтым выяўляўся ціск турэмнай адміністрацыі.

«Адзін раз мяне выклікаў начальнік атрада ды кажа: «Збірайся ў ШІЗА». Я яму: за што? А ён галавой угару ківае ды шэпча: «Яны загадалі», — кажа Яўген і адзначае, што апроч гэтага ніякіх правакацый ён не перажываў.

«У турме не было такіх людзей, якія б цкавалі мяне па ўласным жаданні. Усе ставіліся па-людску, — кажа хлопец. — А што да прашэнняў аб літасці, то мне прапаноўвалі напісаць іх тройчы. Першы раз сам супрацоўнік міліцыі псіхануў, бо пачаў здалёк — пра вайну расказваць. Вось, кажа, паглядзі, як Лінію Сталіна пабудавалі, каб гісторыю памяталі. А ты кажаш, што не памятаюць. Я яму сказаў, што Сталін — гэта кат, і беларусам ганебна ім ганарыцца. Той супрацоўнік псіхануў, пачаў крычаць і вылецеў з пакоя. Потым яшчэ раз ужо адкрытым тэкстам спыталіся: будзеш [пісаць прашэнне аб памілаванні. — Рэд.]? Я кажу — не.

А супрацоўнік мне адказвае: «Што, не хочаш у душу пляваць? Ну добра, твая справа». Гэты чалавек да мяне з разуменнем паставіўся, бо ў турме інакш нельга — тым, хто там, пагражаць бессэнсоўна. А вось трэці раз ужо канкрэтны кадэбіст быў. Пагаварыў са мной трохі, але нічога не дабіўся. Гэта была прынцыповая пазіцыя — я ні пры якіх умовах не прасіў бы ў Лукашэнкі літасці».

## Дастаў нож — рэж

Як адзначае Яўген, у турме яму даводзілася жыць «па паняццях», бо ў такіх месцах на лёс чалавека больш уплывае не адміністрацыя, а аўтарытэтныя зэкі.

«У турме хутка вучышся, разумееш нейкія жыццёвыя ісціны, сталееш, — упэўнены хлопец. — Напэўна, не адседзеўшы, я б пачаў думаць так, як думаю цяпер, толькі пасля 30 гадоў. А вынес я для сябе наступнае: па-першае, да ўсіх трэба па-людску ставіцца, не зважаючы на рангі і прафесіі. Той жа міліцыянт — ён робіць сваю працу і зробіць яе ў любым выпадку. І калі лезці на ражон, то можа атрымацца толькі горш. Трэба з усімі знаходзіць супольную мову.

Па-другое, я добра засвоіў закон «Дастаў нажа — рэж». Перад тым, як штосьці зрабіць ці сказаць, трэба падумаць: а навошта гэта табе?

Калі дзеянне непатрэбнае, то няма чаго тады выдаткоўваць свае жыццёвыя сілы. Але калі ўжо штосьці паабяцаў, то зрабі.

А па-трэцяе, я пачаў цікавіцца літаральна ўсім. Па сутнасці, мы жывём дзеля ведаў. Вось мне цяпер тое цікава, і тое цікава, і гэтае. Бо кожны чалавек — гэта іншае жыццё, іншыя пачуцці.

Я з захапленнем слухаў у турме гісторыі сукамернікаў: мастакоў, наркаманаў, бізнэсоўцаў».

Але, як бы там ні было, хлопец прызнае, што больш за ўсё ягоны дух падтрымлівалі лісты з волі.

«Мяне проста завальвалі лістамі. Асабліва грэла сэрца, калі пісалі незнаёмыя людзі, выказвалі словы падтрымкі. А ва ўсіх сукамернікаў зайздрасць, што мне столькі пішуць. Гэта ж у турме асноўная ад-

**На судзе я даведаўся, што вялі нас доўга, а ў падвале, дзе мы рабілі напалм, стаяла праслухоўка**

душына, — прызнаецца хлопец ды працягвае: — Яшчэ мы святы для сябе ладзілі, калі Новы год ці дзень народзінаў. Каму пасылкі былі дазволеныя, то яны іх прасілі пад дату даслаць. Ну і тады ўжо піравалі. А яшчэ вясёлую рэч магу расказаць: у турме ж галубы амаль ручныя, дык іх лавілі і ляпілі на галаву кароны з паперы, а на хвост таксама клеілі, нібыта жар-птушка. І асабліва смешна было, калі ўсіх пастрояць, адміністрацыя прыйдзе, а там сярод нас голуб з каронай гуляе. Так і жылі», — прыгадвае Яўген і кажа, што ўсё ж моманты шчырага смеху былі рэдкімі. Больш у турме смяюцца з «чарнухі».

## Розум, Воля, Перамога

У турме Яўген набіў сабе татуіроўкі. Матыў уласны. Як патлумачыў сам палітвязень, крымінальныя татуіроўкі ён рабіць і не меў права, бо сядзеў «палітычным».

«Совы — гэта з грэцкай міфалогіі, яны суправаджалі багіню Афіну і з'яўляліся сімвалам мудрай вайны, перамогі, — паказвае на грудзях Яўген, — Ніжэй — нашае двукрыжжа ў дубовым вянку, які сімвалізуе нязломнасць. А словы — гэта мой асабісты дэвіз: «Розум, воля, перамога» па-грэчаску. Таксама дзве славянскія руны на руках набіў».

Па словах Яўгена, білася гэта бясплатна — падэшву абутку майстар пераплаўляў, а потым рабіў фарбу. Дарэчы, такое тату немагчыма вывесці нават лазерам.

## «Узяў толькі неабходнае — халву, цыгарэты і туалетную паперу»

Гаворачы пра сваё вызваленне, Яўген адзначае, што пакуль не ведае рэальных матываў, якія падштурхнулі Лукашэнку на такі крок. Магчыма, гэта крызіс у эканоміцы і імкненне нармалізаваць адносіны з Захадам. Звесткі пра цяжкае становішча ў краіне даходзілі нават за краты.

«Людзі ў турме незадаволеныя ўладай. Па-першае, праз тое, што яны сядзяць. Па-другое, праз тое, што сядзяць, на іх думку, беспадстаўна. Незадаволеныя і службоўцы. Мала хто гэта выказвае адкрыта — афіцэры баяцца, але т.зв. «кантралёры» больш свабодна расказвалі пра тое, што на волі адбываецца, распавядалі, што з кожным месяцам усё цяжэй робіцца жыць, што цэны растуць, даляр расце. Нават за кратамі адчуваеш напружанне», — кажа хлопец і вяртаецца да падзей мінулай суботы, калі ён выйшаў на волю.

«Прыйшлі ў камеру ды сказалі, каб збіраўся на «этап». Я яшчэ падумаў: на які яшчэ этап? Штосьці падазрона, — успамінае Яўген. — І я ж якраз нядаўна меў сустрэчу з маці, дык у мяне тры торбы прадуктаў было. Я іх пакінуў хлопцам, якім давяраў, і пайшоў за турэмшчыкамі, узяўшы самае неабходнае: халву, цыгарэты і туалетную паперу. А потым яны сказалі, што выпускаюць. Павезлі мяне да вакзала. Канечне, радасць прысутнічала, але не хацелася міліцыянтам свае эмоцыі паказваць. Потым, ужо на вакзале, быў шок. Бо столькі народу сустракала: журналісты, сябры, сям'я. Столькі ўвагі адразу, і з кожным хацелася хаця б хвіліну пагаварыць. Але самым галоўным пачуццём была нязвыкласць да дзяўчат. Бо столькі гадоў у адным мужчынскім калектыве, а тут лета — апранутыя ўсе лёгка. Карацей, падчас сустрэчы да дзяўчат намагаўся моцна не прыціскацца. І яшчэ, мне адзін журналіст сказаў, што калі прыехаў мяне сустракаць, то не ведаў, да якой платформы аўтобус прыедзе. Таму ён проста на плач маёй маці пайшоў — так далёка яго было чуваць».

Як далей уладкоўваць сваё жыццё, хлопец пакуль думае. Хочацца і звыкнуцца да волі, і з'ездзіць у адпачынак. А потым — вяртанне да працы.

Васьковіч спадзяецца, што яго возьмуць на колішняе месца работы ў «Бабруйскім кур'еры», «а там ужо будзе відаць».

**Арцём Гарбацэвіч, Бабруйск—Мінск**

# Былы міністр просіць за катэдж у Драздах $1 400 000

**Віктар Галаванаў** спрабуе абнаявіць «бонус», атрыманы ад дзяржавы.

Колькі каштуе элітнае жыллё беларускіх чыноўнікаў у Драздах? Рыэлтары не даюць аргументаванага адказу на гэтае пытанне, раячы лічыць ад $1 мільёна. Міністраў можна лічыць мільянерамі, аднак за апошнія гады ніхто з сотні лукашэнкаўцаў, якім выдалі зямлю ў Драздах і Вяснінцы, не абмяняў свой «бонус» на жывыя грошы. Былая старшыня Нацбанка Надзея Ермакова спрабавала здаць адзін са сваіх асабнякоў у арэнду (падрабязнасці ў №31 ад 19 жніўня 2015 года), але, найхутчэй, марна.

І вось з'явіўся першы ахвотны атрымаць поўны кошт катэджа. На сайтах агенцтваў нерухомасці з'явілася аб'ява аб продажы дома на Ціхім завулку за $1,4 мільёна. І гэта за адзін з самых маленькіх, нягеглых катэджаў у Драздах!

Гаспадар дома — выкладчык міжнароднага права Беларускага інстытута правазнаўства (БІП) Сяргей Галаванаў. Элітная нерухомасць дасталася яму ў падарунак ад бацькі, былога міністра юстыцыі Віктара Галаванава. Цяпер адстаўны чыноўнік працуе рэктарам у тым самым БІПе.

Зрэшты, перапісваць элітную нерухомасць на сваякоў — нярэдкая практыка для чыноўнікаў пасля сыходу з пасады.

Здымкі, далучаныя да аб'явы, дазваляюць убачыць, як выглядае катэдж міністра ўнутры.

Госці Галаванавых трапляюць у прасторны хол (30 м²). Адтуль разыходзяцца дзверы ў гасціную (39 м²), жылы пакой (22 м²) і гараж (32 м²). Таксама ўнізе знаходзяцца кухня (20 м²), гардэробная (8 м²), санвузел і топачная. Праз шкляныя дзверы можна выйсці ў двор з двух бакоў дома.

Калі ўзняцца па драўлянай лесвіцы на мансардны паверх, апынешся ў чарговым холе (40 м²). Вакол яго тры жылыя пакоі (каля 20 м² кожны), яшчэ адна гардэробная і яшчэ два санвузлы.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН








АНТОН МАТОЛЬКА

**Віктар Галаванаў**

Нарадзіўся ў 1952 у Барысаве. Скончыў юрыдычны факультэт БДУ (1979), Інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання КПБ (1991). Кандыдат юрыдычных навук.

У 1980—1987 быў на партыйнай працы, у 1987—1988 — кіраўнік аддзела юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама. У 1988—1992 — інструктар дзяржаўна-прававога аддзела ЦК КПБ, начальнік аддзела, намеснік начальніка ўпраўлення Міністэрства юстыцыі Беларусі. У 1992—1995 — намеснік старшыні Дзяржаўнага патэнтнага ведамства. У 1995—1996 — член Мінскай гарадской калегіі адвакатаў.

У 1996—2000 — намеснік, першы намеснік міністра юстыцыі. У 2000—2001 — начальнік Галоўнага дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта. У 2001—2011 — міністр юстыцыі.

Цяпер — рэктар Беларускага інстытута правазнаўства.

Жанаты. Мае дваіх дзяцей.

Інтэр'еры выглядаюць простымі. На сценах развешаныя карціны і нейкія граматы. Над працоўным сталом — дартс.

Від з балкона таксама не ўражвае, суседнія катэджы стаяць ушчыльную. Затое можна вітацца са старшынёй ЦВК Лідзіяй Ярмошынай, якая жыве насупраць.

Агульная плошча дома складае 267 м², гэта нямнога ў параўнанні з суседзямі. Калі перalічыць запытаную Галаванавым цану на квадратныя метры, атрымліваецца $5235 за м².

У комплекце ідзе яшчэ і ўчастак (менш за 10 сотак), але фармальна ён не знаходзіцца ва ўласнасці Галаванава. Сям'я былога міністра валодае ім на праве пажыццёвага спадчыннага валодання. Гэта ўскладняе працэдуры па перааформленні зямлі.

Калі жыць на сярэдні беларускі заробак і сплачваць падаткі, на катэдж былога міністра давядзецца ашчаджаць 330 гадоў.

Прадаўшы дом у Драздах, Галаванаў на вуліцы не застанецца. Яшчэ з 1990-х у яго была прасторная трохпакаёўка ў «чырвоным доме» на вуліцы Максіма Танка. Яе цяперашняя цана — каля 110 тысяч.

За якія заслугі Галаванаў атрымаў элітнае жыллё? Ён узначальваў міністэрства ў 2001—2011 гадах. За гэты час у краіне не зарэгістравалі ніводную новую палітычную партыю. Была ўведзена крымінальная адказнасць за «дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі».

Адвакаты, якія абаранялі ўдзельнікаў Плошчы-2010, атрымалі воўчыя білеты і былі выкінутыя з прафесіі. За гэта Галаванаў патрапіў у чорны спіс Еўрасаюза. «Гэта, канешне, непрыемна для нашай краіны і людзей, супраць якіх уведзеныя санкцыі», — заявіў ён і даводзіў, што рашэнне Еўрасаюза — «пазапраўавое».

**Ягор Марціновіч**

# Сотня мільянераў

Участкі для будаўніцтва катэджаў у Драздах, Вяснінцы і за «Мінск-Арэнай» атрымалі больш за 100 прадстаўнікоў лукашэнкаўскай эліты.

**Абельская Ірына** — кіраўніца Рэспубліканскага клінічнага медыцынскага цэнтра
**Агееў Аляксандр** — у свой час міністр энергетыкі
**Азаранка Вікторыя** — тэнісістка
**Альшэўскі Віктар** — мастак
**Алымаў Юрый** — у свой час намеснік старшыні Нацбанка
**Андрэйчанка Уладзімір** — старшыня палаты прадстаўнікоў
**Анфімаў Леанід** — старшыня Дзяржкантролю
**Бамбіза Іван** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Бандарчук Таццяна** — у свой час дырэктар «Белдзяржцырка»
**Бардзюжа Мікалай** — генеральны сакратар АДКБ, грамадзянін Расіі
**Бароўскі Аляксандр** — у свой час кіраўнік «Белнафтахіма»
**Батура Барыс** — у свой час старшыня Мінаблвыканкама
**Булыгін Сяргей** — першы намеснік кіраўніка федэрацыі біятлона
**Вакульчык Валерый** — старшыня КДБ
**Васілевіч Рыгор** — у свой час генеральны пракурор
**Вашчанка Уладзімір** — міністр па надзвычайных сітуацыях
**Галаванаў Віктар** — у свой час міністр юстыцыі
**Грышын Аляксей** — алімпійскі чэмпіён
**Гусараў Анатоль** — генеральны дырэктар «Белавія»
**Давыдзька Генадзь** — старшыня «Белтэлерадыёкампаніі»
**Дашчынскі Дзмітрый** — прызёр Алімпійскіх гульняў
**Дражын Уладзімір** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Ермакова Надзея*** — у свой час старшыня Нацбанка*
**Ерын Леанід** — у свой час старшыня КДБ
**Жылін Ігар** — у свой час кіраўнік «Белнафтахіма»
**Зайцаў Вадзім** — у свой час старшыня КДБ
**Захараў Міхаіл** — хакейны трэнер
**Зінкевіч Уладзімір** — мастак
**Зіноўскі Уладзімір** — міністр эканомікі
**Іваноў Валерый** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Іванчанка Мікалай** — у свой час намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта
**Кабякоў Андрэй** — прэм'ер-міністр
**Кадушка Мікалай** — у свой час намеснік старшыні Нацбанка
**Казіятка Юрый** — кіраўнік «Сталічнага тэлебачання»
**Калаўр Павел** — старшыня Нацбанка
**Калінін Анатоль** — віцэ-прэм'ер
**Камянкоў Віктар** — у свой час старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда
**Канаплёў Уладзімір** — у свой час старшыня палаты прадстаўнікоў
**Канюк Аляксандр** — генеральны пракурор
**Кісель Рыгор** — кіраўнік АНТ
**Корбут Мікалай Мікалаевіч** — у свой час кіраўнік справаў прэзідэнта
**Косінец Аляксандр** — кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта
**Кудравец Алена** — дырэктар «Беларускай калійнай кампаніі»
**Куляшоў Анатоль** — у свой час міністр унутраных спраў
**Кушнір Антон** — алімпійскі чэмпіён
**Курачкін Генадзь** — у свой час міністр архітэктуры і будаўніцтва
**Ладуцька Мікалай** — у свой час старшыня Мінгарвыканкама
**Латыпаў Урал** — у свой час кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта
**Ляпарская Ірына** — трэнер па мастацкай гімнастыцы
**Лузгін Мікалай** — у свой час намеснік старшыні Нацбанка
**Макей Уладзімір** — міністр замежных спраў
**Мальцаў Леанід** — старшыня памежнага камітэта
**Мартынаў Сяргей** — у свой час міністр замежных спраў
**Маскевіч Сяргей** — у свой час міністр адукацыі
**Матусевіч Міхаіл** — у свой час віцэ-спікер савета рэспублікі
**Мацюшэўскі Васіль** — першы віцэ-прэм'ер
**Міхневіч Наталля** — прызёр Алімпійскіх гульняў
**Міцкевіч Валерый** — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта
**Мясніковіч Міхаіл** — спікер савета рэспублікі
**Навіцкі Генадзь** — у свой час прэм'ер-міністр
**Навумаў Уладзімір** — у свой час міністр унутраных спраў
**Нявыглас Генадзь** — у свой час кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта
**Папкоў Аляксандр** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Папоў Вадзім** — у свой час старшыня палаты прадстаўнікоў
**Патупчык Уладзімір** — міністр энергетыкі
**Паўлаў Міхаіл** (памёр) — у свой час старшыня Мінгарвыканкама
**Паўлоўскі Аляксандр** — у свой час старшыня памежнага камітэта
**Поўны Фёдар** — святар
**Пракаповіч Пятро*** — у свой час віцэ-прэм'ер, старшыня Нацбанка
**Праляскоўскі Алег** — у свой час міністр інфармацыі
**Пяткевіч Наталля** — у свой час намесніца кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта
**Радзькоў Аляксандр** – у свой час памочнік прэзідэнта
**Ракавец Аляксандр** — банкір
**Рапота Грыгорый** — дзяржаўны сакратар саюзнай дзяржавы, грамадзянін Расіі
**Рачкоўскі Ігар** — у свой час старшыня Дзяржаўнага памежнага камітэта
**Румас Сяргей** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Румо Алег** — доктар
**Русы Міхаіл** — віцэ-прэм'ер
**Русецкі Анатоль** — у свой час кіраўнік Нацыянальнай акадэміі навук
**Рыбакоў Валянцін** — намеснік міністра замежных спраў, у свой час памочнік прэзідэнта
**Селязнёў Аляксандр** — у свой час міністр архітэктуры і будаўніцтва
**Сідорскі Сяргей** — у свой час прэм'ер-міністр
**Сукала Валянцін** — старшыня Вярхоўнага суда
**Сухарэнка Сцяпан** — у свой час старшыня КДБ
**Сямашка Уладзімір** — віцэ-прэм'ер
**Сянько Уладзімір** — у свой час намеснік старшыні Нацбанка
**Тапузідзіс Павел** — бізнэсмен
**Таўпянец Эдуард** — у свой час першы намеснік міністра энергетыкі
**Ткачоў Сяргей** — у свой час памочнік прэзідэнта
**Тозік Анатоль** — у свой час віцэ-прэм'ер
**Уцюрын Андрэй** — намеснік дзяржаўнага сакратара Рады бяспекі
**Федарцоў Аляксандр** — першы намеснік старшыні Вярхоўнага суда
**Харкавец Андрэй** (памёр) — у свой час міністр фінансаў
**Цалко Уладзімір** — у свой час міністр прыродных рэсурсаў
**Цяцерын Сяргей** — тэнісны трэнер
**Чыж Юрый** — бізнэсмен
**Шаеў Валянцін** — старшыня Следчага камітэта
**Шакуцін Аляксандр** — бізнэсмен
**Шаўцоў Віктар** — бізнэсмен
**Швед Андрэй** — старшыня Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз
**Шпілеўскі Аляксандр** — у свой час старшыня мытнага камітэта
**Шуневіч Ігар** — міністр унутраных спраў
**Шэйман Віктар** — кіраўнік справаў прэзідэнта
**Шчоткіна Мар'яна** — міністр працы і сацыяльнага забеспячэння
**Якабсон Аляксандр** — у свой час кіраўнік Дзяржкантролю
**Ярмоленка Анатоль** — спявак
**Ярмошына Лідзія** — старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі

*атрымалі па два ўчасткі

Апроч таго, міністр аховы здароўя **Васіль Жарко**, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Мікалай Снапкоў** і старшыня палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Андрэйчанка** займелі ў Драздах вялізныя кватэры, якія не траплялі ў агульны продаж.

# За сябра Юрыя Чыжа ўзяўся КДБ

Арыштаваны мільянер **Уладзімір Япрынцаў.**

Камітэт дзяржаўнай бяспекі дагэтуль не каментуе інфармацыі пра затрыманне сузаснавальніка «Трайпла» і блізкага сябра мультымільянера Юрыя Чыжа.

Грамадскасць ведае толькі адрывістыя звесткі гэтай дзіўнай гісторыі. Спачатку быў затрыманы сын бізнэсмена, Казбек. А 12 жніўня КДБ прыняў пастанову аб арышце Япрынцава-старэйшага і ягонай нерухомасці. Крыніцы «Ежедневніка» адзначаюць, што мільянера прыехалі браць 14 жніўня наўпрост у рэстаран, дзе ён адзначаў сваё 54-годдзе. Цікава, што літаральна праз дзень Юрый Чыж як ні ў чым не бывала капаў бульбу разам з Аляксандрам Лукашэнкам. «Япрынцаў? Гэта не каментую, хлопцы», — заявіў Чыж, калі журналісты падышлі да яго на футболе.

Прычынай арышту Япрынцавых магло стаць прадухіленне спробы выводу капіталу з краіны. Некалькі месяцаў таму сям'я трапіла ў канфліктную сітуацыю. У 2014 годзе ўкраінская інвестыцыйна-банкаўская кампанія *Jaspen Capital Partners* падпісала кантракт на куплю дызпаліва на $1,6 мільёна. Пастаўшчык — афшорная *Edena Investments*, зарэгістраваная на Брытанскіх Віргінскіх астравах. Адным з заснавальнікаў гэтай кампаніі быў Казбек Япрынцаў, а ўгоду гарантаваў ягоны бацька і «Трайпл».

Салярка так і не даехала да Украіны, але атрыманую перадаплату Япрынцаў і «Трапл» вяртаць не збіраліся. Пасля таго, як падрабязнасці гісторыі з'явіліся ў інтэрнэце, бакі нібыта прыйшлі да згоды, быў складзены графік пагашэння запазычанасці.

Пасля арышту Япрынцавых украінцы нагадалі пра сябе. «Канфлікт між намі не вырашаны. Узгоднены графік плацяжоў парушаны, і кампанія «Трайпл» у асобе Юрыя Чыжа адмаўляецца ад сваіх абавязацельстваў па тых дамовах, якія былі падпісаны Япрынцавым», — заявілі яны на *Tut.by*. Украінская кампанія збіраецца падаваць у Лонданскі суд пазоў у на «Трайпл». Затрыманне Япрынцавых украінскія менеджары часткова звязваюць са сваёй справай.

ЯМ



Уладзімір Япрынцаў у кампаніі Юрыя Чыжа (справа) і гімнасткі Ксеніі Санковіч.

# Хто такі Япрынцаў?

Сузаснавальнік «Трайпла», чэмпіён свету па самба, старшыня федэрацыі дзюдо і самба, доктар філасофскіх навук... У рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых беларускіх бізнэсменаў, складзеным «Ежедневніком» ў 2013 годзе, Япрынцаў займаў 19-е месца.

### Расеец з Туркменістана

Уладзімір Япрынцаў нарадзіўся ў 1961 годзе ў Ашхабаце, сталіцы Туркменістана. Ягоныя бацькі былі расейцамі. У маладосці яму даводзілася ўдзельнічаць у бытавых канфліктах расейцаў і туркменаў, расказваў ён сам.

Ягоны бацька рана кінуў сям'ю, калі хлопцу было дзевяць гадоў. Яго выхоўвала адная маці. Жанчыне даводзілася працаваць у трох месцах, каб пракарміцца.

Сваіх бацькоў маці Япрынцава не памятала. Яна вырасла ў дзіцячым доме, дзе і атрымала сваё прозвішча — Валянціна Невядомая. Адправіўшыся на камсамольскую будоўлю ў Туркменскую ССР, яна сустрэла будучага мужа.

«Цяпер, шчыра кажучы, ад таго Ашхабада мала што засталося. Сёння гэта тыповы турэцкі, назавем так, горад. І калі я захачу ўбачыць Турцыю, то паеду ў краіну, якая была калісьці Асманскай Імперыяй... Дый ад Расеі кіраўніцтва Туркменіі адварочвацца, я ж — рускі чалавек. І патрыёт сваёй краіны — Беларусі».

Япрынцаў з настальгіяй узгадвае пра Савецкі Саюз і лічыць ЗША «імперыяй зла».


Казбек Япрынцаў.

### Чэмпіён па самба

У Мінск Япрынцава прывёз трэнер-беларус, які працаваў у Туркменскай ССР. Хлопец займаўся самба і паспрабаваў паступіць у Інстытут фізкультуры.

«Экзамен па хіміі праваліў, атрымаў заслужаную двойку. Я пасля той ганьбы, калі з аўдыторыі выйшаў, перажыў адзін з наймацнейшых стрэсаў у жыцці. Я сам быў вінаваты, прыехаў як піжон. Думаў, мяне залічаць за выдатныя спартыўныя поспехі. Праўда, так яно потым і выйшла, двойку выправілі на тройку», — узгадваў Япрынцаў.

Заслужаны майстар спорту СССР па самба, заслужаны трэнер Беларусі, 4-разовы чэмпіён свету па самба, 3-разовы чэмпіён Еўропы па самба, уладальнік Кубка свету — спіс дасягненняў Япрынцава.

Япрынцаў стаў апошнім чэмпіёнам СССР па самба. Развал дзяржавы адкрыў перад ім новыя перспектывы.

### Першыя грошы зарабіў ахоўнікам

Япрынцава паклікалі выступаць у Германію. Сябрыпрадпрымальнікі вырашылі скарыстацца ягонай дапамогай пры транспарціроўцы партыі лікёра «Амарэта» ў Маскву. Спартовец-чэмпіён быў ахоўнікам.

На такой жа пасадзе ён працаваў і ў Юрыя Чыжа — суправаджаў груз з Мінска ў Маскву, ахоўваючы яго ад рэкеціраў.

З Чыжом яны пазнаёміліся, гуляючы разам у футбол. Дапамаглі байцоўскія сувязі — Чыж у свой час паспяхова займаўся грэка-рымскай барацьбой.

Канец 1990-х дыктаваў новыя формы працы. Япрынцаў стаў зваццa начальнікам службы бяспекі «Трайпла».

А ў 2000-я ўзняўся да статуса найбліжэйшага партнёра Юрыя Чыжа. Япрынцава нават называлі саўласнікам «Трайпла». Пры гэтым ён абараніў дысертацыю доктара філасофскіх навук, ён суаўтар кнігі «Нацыянальная самасвядомасць як інтэгратыўная прыкмета нацыі».


Арыштаваны катэдж у Драздах.

### (Былы?) жыхар Драздоў

Як і свой бос, Япрынцаў атрымаў магчымасць пабудаваць катэдж у самым статусным раёне Беларусі.

Адметна, што спачатку бізнэсмен узвёў дом і толькі пасля атрымаў ва ўласнасць зямлю (амаль 11 сотак) пад ім.

Двухпавярховы цагляны катэдж плошчай больш за 450 м² будаваўся на пазычаныя грошы. «Беларускі народны банк» адкрыў Япрынцаву крэдытную лінію на $230 тысяч. Неўзабаве бізнэсмен папрасіў пашырыць яе да $270 тысяч. Япрынцаў меўся вярнуць грошы да кастрычніка 2015 года.

Магчыма, выканаць свае абавязальніцтвы яму будзе складана. 17 жніўня катэдж у Драздах быў апячатаны.

### Сын-інвестар

Бізнэсам займаецца і сын Казбек. Хлопец атрымаў імя ў гонар сябра бацькі, трэнера па дзюдо Казбека Рамазанава.

Кампанія «Ямікс Груп» Япрынцава-малодшага займалася раскруткай інтэрнэт-сайтаў. Напрыклад, яму належыць футбольны сайт *footballtop.ru*, турыстычны партал, даведкавы аўтамабільны каталог.

Ёсць у Япрынцава і дзве дачкі. Адна з іх, Марына, скончыла Мінскі лінгвістычны. Цяпер дзяўчына жыве ў Вене. Аднак менавіта на яе зарэгістраваныя трохпакаёвыя апартаменты Япрынцавых у «доме Чыжа» ў Траецкім прадмесці. Гэта і ўтатавала кватэру да арышту спецслужб.

Ягор Марціновіч

# Беражкова абвінавацілі ў крадзяжы мільярда рублёў




Сума яшчэ **можа вырасці.**

У Следчым камітэце агучылі новыя падрабязнасці справы былых топменеджараў хакейнага клуба «Дынама-Мінск».

Генеральнаму дырэктару Максіму Суботкіну інкрымінуюць злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, якое пацягнула прычыненне шкоды клубу ў асабліва буйным памеры.

«Акрамя таго, супрацоўнікамі міліцыі выяўлены факты крадзяжу шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненага генеральным менеджарам Уладзімірам Беражковым. Апошні на працягу года сістэматычна прысвойваў грашовыя сродкі хакейнага клуба і распараджаўся імі па сваім жаданні. Папярэдні памер выкрадзенага ацэньваецца ў суму не менш за адзін мільярд рублёў. Канчатковы памер шкоды, прычыненай службовай асобай, вызначаецца», — адзначылі ў СК.

Суботкіну і Беражкову выстаўлена абвінавачанне, абодва знаходзяцца пад вартай. Магчымае пакаранне — ад 3 да 10 гадоў калоніі з канфіскацыяй.

Сяргей Макарэвіч

# У Запарожжы паставілі помнік «рускамоўнаму снегіру» з тварам Пуціна



24 жніўня ва ўкраінскім Запарожжы на плошчы Герояў, ля сцен абласной адміністрацыі, урачыста адкрылі помнік рускамоўнаму снегіру. Як напісана пад пастаментам, «гэты помнік узведзены ў знак жалобы «рускага свету» па злачынна забітых «жыдабандэраўцамі» рускамоўных снегірах».

Сам помнік уяўляе сабой істоту, якая нагадвае гаргуллю з тварам, вельмі падобным да Уладзіміра Пуціна. Істота трымае ў руках снегіра.

Ідэя стварэння помніка прыйшла ў галаву запарожцу Максіму Драздзенку, які з дапамогай скульптара ўвасобіў яе ў жыццё. Ідэя з'явілася пасля заявы сепаратыста з Запарожжа Уладзіміра Рогава пра знішчэнне ў горадзе снегіроў за афарбоўку, якая нагадвае колеры расійскага сцяга.

Помнік зроблены з шамотнай гліны, памер каля 50 на 50 см, а важыць каля 15 кг. Скульптура карыстаецца вялікім попытам у мясцовага насельніцтва — людзі масава фатаграфуюцца ля яе і дзеляцца здымкамі ў інтэрнэце.

Подпіс зроблены дарэвалюцыйным правапісам.

**Зміцер Міцкевіч**

**Фотафакт**



## Ветэран пацалаваў кавун, прывезены Колем Лукашэнкам

Мікалай Лукашэнка 18 жніўня развёз першую частку прэзідэнцкага ўраджаю ў мінскія Дом-інтэрнат для пенсіянераў і інвалідаў і Дзіцячы гарадок Ленінскага раёна Мінска. Адзін з ветэранаў так быў расчулены, што пацалаваў кавун, падораны сынам Лукашэнкі. Эпізод выклікаў шмат шуму ў інтэрнэце.

## Віктар Ганчарэнка сышоў з «Урала», каб не здаваць гульню

Па звестках *pressball.by* беларускі трэнер екацярынбургскага ФК «Урал» Віктар Ганчарэнка напісаў заяву па ўласным жаданні і ўжо пакінуў каманду.

Ганчарэнка займаў пасаду галоўнага трэнера з 14 чэрвеня 2015 года.

Пад яго кіраўніцтвам «Урал» правёў у чэмпіянаце Расіі шэсць матчаў, у якіх здабыў адну перамогу, дзве нічыіх і тры пройгрышы. Раней 38-гадовы Ганчарэнка трэніраваў краснадарскую «Кубань». А першым клубам для ўраджэнца Хойнікаў быў барысаўскі БАТЭ, які Ганчарэнка вывеў у Лігу чэмпіёнаў.

У расійскім інтэрнэце пішуць, што Ганчарэнка сышоў, каб не здаваць гульню «Цераку». Ягоны ўчынак знайшоў падтрымку ў заўзятараў.

**ЗП**



## «Крамбамбуля» прэзентуе ў Вільні апошні альбом і самараспускаецца

Прэзентацыя пройдзе 7 лістапада. Пасля чаго калектыў плануе «сысці ў лясы».



Канцэрт, які ахопіць новы матэрыял і найлепшыя песні гурту, адбудзецца ў новай канцэртнай зале *Compensa*, разлічанай на 4000 гледачоў. Беларусы могуць атрымаць бясплатныя візы.

«Альбом «Чырвоны Штраль» — гэта фантасмагорыя, у якой змяшаліся мінулае, сучаснасць і будучыня Беларусі, адлюстраваныя з уласцівымі «Крамбамбулі» гумарам і іроніяй. Гэта апошні альбом гурту, пасля чаго мы пойдзем у лясы партызаніць. Іншых варыянтаў існавання ў сучасных умовах мы не бачым», — кажа Лявон Вольскі.

«Чырвоны Штраль» названы ў гонар культавага віленскага кафэ пачатку XX стагоддзя, дзе збіралася інтэлігенцыя, у тым ліку беларуская. Сярод гасцей ўстановы былі Янка Купала і браты Луцкевічы.

Ёсць звесткі, што ў 1916 годзе менавіта там адбылася знакавая сустрэча Луцкевічаў з прадстаўнікамі польскіх і літоўскіх колаў, пасля якой браты і вырашылі імкнуцца не да ўзнаўленні Рэчы Паспалітай або Вялікага Княства Літоўскага, а да незалежнай Беларусі, абвешчанай пры іх удзеле ў 1918-м пад сцягам БНР.

**Tut.by**

## Руслан Асланаў з Тарасава выступіць за Беларусь на дзіцячым «Еўрабачанні»

Трынаццацігадовы Руслан Асланаў з вёскі Тарасава, што пад Мінскам, выйграў нацыянальны адборачны тур дзіцячага конкурсу песні «Еўрабачанне-2015».

Руслан Асланаў атрымаў найвышэйшыя адзнакі як ад журы, гэтак і ад тэлегледачоў — па 12 балаў. Песню «Чароўнасць» ён будзе выконваць па-руску.

Дзіцячае «Еўрабачанне-2015» пройдзе 21 лістапада ў балгарскай Сафіі.

Асланаў з'яўляецца фіналістам украінскага праекта «Голас. Дзеці», заняў трэцяе месца ў конкурсе «Дзіцячая Новая хваля», удзельнічаў у шэрагу іншых музычных конкурсаў і праектаў.

Пра Асланава як свайго, дарэчы, напісалі амаль усе азербайджанскія сайты.

**ЛМ**



**In memoriam**

## Леў Дураў, які сыграў Братчыка

Не стала знакамітага расійскага акцёра.



«Леў Канстанцінавіч памёр у 00:55 у ноч на 20 жніўня», — паведаміла журналістам дачка акцёра Кацярына. Яму ішоў 84-ы год.

Апошнія сем гадоў Дураў жыў дзякуючы кардыястымулятару. Але гэта не перашкаджала яму здымацца. У асноўным у эпізадычных ролях. «Я не грэбую ніякай працай», — казаў акцёр.

Леў Дураў нарадзіўся ў 1931 у Маскве, у раёне Лефортава, дзе славутая турма. Ва ўсіх біяграфіях паўтраецца штамп, што ён паходзіў «з дынастыі знакамітых цыркавых артыстаў», але бацька яго працаваў у «Саюзвыбухпраме», а маці — у архіве МУС СССР. Хоць цыркачы сярод сваякоў, вядома, былі.

У тэатры, пасля Школы-студыі МХАТ, ён пачаў іграць ад 1954, у кіно — ад 1955. Сыграў больш за 200 роляў. Сваё акцёрскае амплуа Дураў акрэсліваў як «пратэст маленькага чалавека супраць панятку «маленькі чалавек». Ён здымаўся ў культавых «Сямнаццаці імгненнях вясны», «Трох мушкецёрах», але ўсеагульную вядомасць здабыў пасля фільма «Не бойся, я з табой», у якім сыграў акцёра-каратыста. Фільм лёг на эпоху: яго здымалі ў 1981-м, у Саюзе расла папулярнасць каратэ, з'яўляліся падпольныя секцыі.

Дураў, у адрозненне ад многіх сваіх калегаў, ніколі не быў камуністам. Прычым адкрыта тлумачыў, чаму не хоча ўступаць у партыю. Сталіна ён лічыў «самым страшным чалавекам на Зямлі». Чаму? «Цяпер страх перад хваробамі і беднасцю. А такога страху нялюдскага, які быў у кожнай сям'і і ва ўсёй дзяржаве, няма. Таму мне цяпер жыць лепей», — казаў Дураў.

Таксама, у адрозненне ад многіх іншых акцёраў, ён не жаніўся-разводзіўся, а пражыў са сваёй жонкай 50 гадоў. «Як удалося? Я не выстаўляў ёй істотных прэтэнзій», — жартаваў артыст.

Здымаўся Дураў і ў беларускіх стужках. Напрыклад, сыграў галоўную ролю ў фільме «Жыцце і ўзнясенне Юрася Братчыка» (1967) паводле рамана Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Здавалася б, больш неадпаведнага акцёра на такую ролю цяжка знайсці. Але тым магутней глядзелася пераўвасабленне «маленькага чалавека» ў Хрыста. Стужку паказалі толькі ў 1989-м, і то ў адцэнзураваным выглядзе: у ёй уздымаліся тэмы рэлігіі і галоднага бунту супраць улады.

Льва Дурава пахавалі ў Маскве на Новадзявочых могілках. Адначасова дэпутаты расійскай Думы звярнуліся да мэра Масквы з просьбай назваць адну з вуліц імем акцёра. Прычым гэта былі камуністы, да якіх Дураў так і не далучыўся. Такі паварот, напэўна, павесяліў бы і самога акцёра, які меў выдатнае пачуццё гумару.

**Сяргей Мікулевіч**

## Памерла Ала Канапелька

Было ёй 55 гадоў.

Яна нарадзілася 14 лютага 1960 года ў вёсцы Небытаў Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. Была, можна сказаць, зямлячкай Івана Мележа, Барыса Сачанкі, Барыса Пятровіча.

У 1978 г. скончыла Лоеўскую педагагічную навучальню і паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля заканчэння ўніверсітэта (1983) працавала метадыстам у Доме літаратара, а з 1990 — загадчык арганізацыйна-прапагандысцкага аддзела Беларускага фонду культуры.

Першыя вершы апублікавала ў 1974 у хойніцкай раёнцы «Ленінскі сцяг», у 1977 яе апублікаваў часопіс «Маладосць». У 1985 г. выйшаў зборнік вершаў «Цвет алешыны».

**МБ**

### Ала Канапелька

***

Колер памяці сіні і белы…
Так пра Вас лёгка мне ўспамінаць!
Неба яснае зоркамі спела,
Адлівала ў снягах давідна.

На марозе звінелі яліны,
Пакідалі завеі кругі.
І згаралі, як знічкі, хвіліны.
Тая ноч — са святла і тугі.

Колер памяці белы і сіні…

# Ян Маўзер ажаніўся з украінкай

**«Шалёна шчаслівы!»**

Беларускі музыка Ян Маўзер справіў сціплае вяселле з дзяўчынай з Украіны. «Ажаніліся! Нарэшце! І я шалёна шчаслівы й з мокрымі вачыма», — расказаў ён.

Жонку Яна завуць Марынай, яна ўкраінка, стылістка і двухразовая чэмпіёнка Кіева па цырульніцкім майстэрстве (чым Ян моцна ганарыцца).Пара пазнаёмілася ў мінулым кастрычніку менавіта праз працу Марыны: Ян прыйшоў да яе стрыгчыся.

«Яна дабрадушная, пяшчотна прыгожая. Расказвае мне нешта, усміхаецца, я гляджу й думаю: вось жа пашанцуе некаму быць з такой дзяўчынай, — прыгадвае Ян. — А потым у пачатку студзеня ляжым мы пад коўдрай без святла: — А ты б выйшла за мяне? — Угу. — Не, ну сур'ёзна. — Я сур'ёзна. — Марынка, ну скажы шчыра. — Ды шчыра! — Дык ты сапраўды выйдзеш за мяне?! — Канечне!».

«І як мне не быць ёй удзячным за тое, што кахае мяне, такога ёлупа, які нават і прапанову зрабіць нармальна не можа?» — смяецца Ян.

Маладыя будуць жыць у Кіеве: Ян там амаль чатыры гады, яму пашчасціла набыць кватэру ў сталіцы Украіны.

Вяселле было сціплым, маладыя вырашылі не рабіць вялікіх застолляў з тамадой і конкурсамі. Па словах Яна, гасцей было мала. «Пасля ЗАГСа проста адправіліся ў грузінскі рэстаран, — кажа ён. — А калі сцямнела, яшчэ вузейшай кампаніяй паехалі на Абалонскую набярэжную слухаць плёскат Дняпра і размаўляць».

Марына ганарыцца творчасцю Яна, а той абяцае па прыездзе ў Беларусь запісаць вакал для новых песень. Пакуль яго новы праект «Мама» мае толькі два запісаныя трэкі: «Вам» і «Будзь злой».

**Аляксандр Арсёнаў**





## ДАІ аштрафавала кіроўцу, які зладзіў басейн у багажніку аўтамабіля

**І ездзіў так** па Мінску.

ДАІ прыцягнула да адміністрацыйнай адказнасці кіроўцу, які зладзіў басейн у багажніку пікапа. Пра гэта інфармуе агенцтва БелТА.

Ролік з маладымі мінчукамі нядаўна стаў папулярным у *YouTube*. Хлопцы накрылі поліэтыленавай плёнкай багажнік пікапа і ў спёку паехалі катацца па гарадскіх вуліцах і на «МакДрайв».

ДАІ высветліла асобу кіроўцы. На яго склалі два адміністрацыйныя пратаколы: за парушэнне правілаў перавозкі пасажыраў і грузу. Хлопца аштрафавалі на 1 млн 440 тысяч рублёў (8 базавых велічыняў). Ён цалкам прызнаў віну.

**АГ**

## Фота жанчыны пасля кесаравага сячэння ўскалыхнула інтэрнэт




Красамоўнае і шчырае фота, якое без слоў распавяло гісторыю з'яўлення на свет аднаго дзіцяці, сабрала больш за 11 мільёнаў праглядаў у фэйсбуку і пацягнула шквал абмеркаванняў.

Чорна-белую фатаграфію выклала ў фэйсбуку яе аўтарка, Хелен Карміна, не называючы імя сваёй гераіні.

Фатограф і сама цяпер носіць пад сэрцам малога. Асабіста для яе сіла гэтай фатаграфіі — у кантрасце паміж пакутай і хараством.

«Неймаверна шмат жанчын саромеюцца сваіх шнараў і вымушаныя адчуваць сябе так, быццам не выканалі сваю працу належным чынам, бо не нарадзілі дзіця натуральным шляхам», — адзначыла Карміна.

На сваёй старонцы фатограф папрасіла людзей устрымацца ад абразлівых і грубых каментароў, а тых, каму фота не падабаецца, — не глядзець.

**Сяргей Гезгала**

## Заўзятар «Арсенала» перадаў Аляксандру Глебу вітанне з магілы

**Незвычайную гісторыю** распавядае брытанскае выданне *The Telegraph*.

Меркаванні прыхільнікаў «Арсенала» пра беларускага паўабаронцу, які выступаў за клуб у 2005—2008, падзяліліся. Некаторыя з іх лічаць Алекса адным з найбольш тэхнічна адораных гульцоў, які рэальна ўпрыгожыў кароткую гісторыю стадыёна «Эмірэйтс».

Праўда, для многіх паўабаронца ўвасабляў сабой усе тыя рысы, якія так расчароўвалі ў камандах Арсена Венгера за апошнія гады: далікатнасць і непаслядоўнасць разам з вар'яцкім нежаданнем наносіць удары па варотах.

Адзін фанат, які цвёрда прылічаў сябе да другога лагера, настолькі не любіў Глеба, што на мемарыяльнай дошцы мужчыны пасля было выгравіравана яго меркаванне пра гульню беларуса.

На помніку Джэфа Коэна напісаныя простыя словы: «Джэф Коэн ніколі не кацiраваў Глеба».

Не так даўно Ховард Коэн напісаў у твітары: «Бацька лічыў, што Глеб — гэта смецце. Тата падтрымліваў «Арсенал» з 50-х гадоў, таму мне хацелася неяк зафіксаваць яго сцёб з гэтай нагоды».

**By.tribuna.com**

## У Польшчы знойдзены цягнік з золатам Трэцяга Рэйха?

У Польшчы знайшлі згубленыя з часоў Другой сусветнай вайны цягнік са скарбамі нацыстаў: каштоўнымі камянямі і зброяй. Пра гэта 19 жніўня паведаміла *Reuters*, спасылаючыся на словы польскіх чыноўнікаў.

Мясцовыя ўлады ў паўднёвым горадзе Польшчы Валбжых распавялі, што яны звязаліся з юрыдычнай фірмай, якая прадстаўляе інтарэсы двух чалавек. Яны, па іх словах, знайшлі цягнік са скарбамі нацыстаў і патрабуюць 10% ад знойдзенага.

«З гэтым разбіраюцца юрысты, армія, паліцыя і пажарныя. На гэтай тэрыторыі яшчэ ні разу не вяліся раскопкі, таму мы не ведаем, што можам там знайсці», — распавёў агенцтву прадстаўнік гарадской адміністрацыі Марэк Такарскі.

Агенцтва, спасылаючыся на мясцовыя СМІ, паведамляе, што цягнік знік у 1945 годзе. Ён быў нагружаны рознымі трафеямі і каштоўнасцямі з горада Брэслаў (цяпер Вроцлаў). Іх пачалі вывозіць з горада пасля таго, як да яго падышла Чырвоная Армія.

Цягнік, згодна з гарадской легендай, быў схаваны ў тунэлі каля замка Ксёнж каля гор Ніжняй Сілезіі. Пазней тунэль быў зачынены, пра яго на доўгі час забыліся.

**Tvrain.ru**

**Кіно**

## Геній і звышздольнасці

Фантастычная чацвёрка
**Жанр:** фантастыка, баявік, прыгоды
**Рэжысёр:** Джош Транк
**У ролях:** Майлз Тэлер, Майкл Б. Джордан, Кейт Мара, Джэймі Бел, Тобі Кэбел, Рэг Э. Кэці, Цім Блейк Нельсан
ЗША, 100 хв.
**Адзнака:** 4

Фільм расказвае пра чатырох маладзёнаў, якія трапілі ў альтэрнатыўны сусвет. Рыд Рычардс, малады навуковец, апантаны ідэяй стварыць тэлепорт, быў заўважаны на выставе тэхналогій доктарам Штормам. Дзякуючы рэсурсам яго кампаніі, Рыд разам з Віктарам Думам і Джоні Штормам, а таксама сваім сябрам Бенам першымі ажыццяўляюць пераход. Там яны сутыкаюцца з невядомым рэчывам, якое змяняе іх фізічныя ўласцівасці незваротным чынам. Іх жыццё ўжо не можа быць ранейшым, і каманда павінна навучыцца спраўляцца са сваімі новымі здольнасцямі і працаваць разам, каб ратаваць Зямлю ад былога сябра Віктара, які застаўся ў тым сусвеце і атрымаў звышздольнасці.

Перазапуск серыі фільмаў пра супергерояў, асновай якіх сталі коміксы ад *Marvel Comics* пра аднайменную каманду. Распрацоўку першага фільма *Marvel* даверыла студыі *20th Century Fox* і рэжысёру Джошу Транку. Аднак пасля таго, як рэжысёр завяршыў працу над сваёй версіяй фільма ў 2014, студыя засталася незадаволеная працай і запатрабавала перазняць фільм. Паўторныя здымкі былі праведзены ў пачатку 2015. «Год таму ў мяне была фантастычная версія карціны. І яна б атрымала выдатныя рэцэнзіі. Але вы ніколі яе не ўбачыце. Жыццё такое», — пракаментаваў сітуацыю Транк у сваім твітары.

Галоўныя ролі выканалі маладыя і малавядомыя акцёры — за выключэннем Майлза Тэлера, які атрымаў шмат намінацый за ролю бубнача ў «Апантанасці». «Нават да мутацыі героі ўжо ў пэўным сэнсе валодалі звышздольнасцямі. Мутацыя проста вынесла іх на паверхню тое, што ў іх ужо ёсць. І ў гэтым сэнсе структура фільма вельмі добрая, яна дэманструе гэтыя дэталі пра герояў да таго, як з імі здарыцца само пераўтварэнне», — расказаў Джэймі Бел, выканаўца ролі Істоты — каменнага чалавека.




На жаль, глыбіня асабістых драм у канчатковай версіі фільма далёка не відавочная. Стужка, якая выйшла на экраны, мае надзвычай нізкі рэйтынг для фантастыкі ад *Marvel*. Фільм атрымаўся няўдалым амаль па ўсіх паказчыках: абазначаныя рэжысёрскія ідэі не атрымліваюць сюжэтнага працягу, акцёры маладыя і нехарызматычныя, не ўдалося і як след навесці экшну.

**Настасся Уласава**

# Парады маладому настаўніку

Зусім хутка настаўнікі па размеркаванні выйдуць на працу ў школу. Прапануем парады ад настаўніцы англійскай мовы, якая адпрацавала ў гомельскай школе год па сваім жаданні.

### Вы маеце права выбіраць сваю нагрузку

Маладога настаўніка ставяць перад фактам і даюць максімальную нагрузку, якая толькі не размеркавана ў школе.

Старэйшыя настаўнікі часам змагаюцца за дадатковыя гадзіны, маладым жа бывае вельмі цяжка ўзяць 1,5 стаўкі на самым пачатку.

Адразу вызначце, колькі гадзін на тыдзень вы пацягнеце, пасля паменшыце гэтую лічбу на пяць і настойвайце на такім аб'ёме працы. Тут трэба памятаць пра штодзённыя 3-4-гадзінныя нарады і пасяджэнні, семінары для маладых настаўнікаў і іншыя каляшкольныя мерапрыемствы.

### Не чакайце дапамогі

Ведайце, што маладога настаўніка ніхто не падтрымлівае, бо не чакае, што ён можа застацца працаваць у школе пасля размеркавання. (Людзі, што прыйшлі ў школу самі, увогуле не ўпісваюцца ў звыклыя кадрыянаты.) Нікога не цікавіць, што ён стамляецца і ні на што не хапае часу — пасярод года нагрузку ніхто не зменшыць, хутчэй павялічаць.

Вас пачнуць падтрымліваць, калі пераканаюцца, што вы добры работнік, настроены заставацца ў школе надоўга.



Ілюстрацыйнае фота.

### Вы не абавязаны плаціць за метадычную літаратуру

Кропка. Усе прэміі з'яўляюцца элементам заахвочвання і ўзнагародай за працу без заганаў і не могуць выдзяляцца на канцылярскія ці адміністратыўныя патрэбы.

На пачатку года мы здалі па 300 000 на «Настаўніцкую газету», у канцы — па 600 000 на метадычную літаратуру. Я заплаціла толькі ў верасні, бо «не ведала, што можна не плаціць» — шмат хто праігнараваў патрабаванне дырэктара і не меў аніякіх праблем.

Адміністрацыя мае план падпіскі, таму будзе ўсяляк палохаць. Варта спакойна давесці, што вы разумееце сітуацыю, але не маеце магчымасці/жадання да прымусовай падпіскі. Паабураюцца ды забудуць.

### Вы не абавязаны весці факультатывы

У верасні, калі набіраюць групы і размяркоўваюць факультатывы паміж настаўнікамі, варта ўвогуле не хадзіць на «нефармальныя» сустрэчы з завучамі, таму што хто прыйшоў, той і атрымаў. Завучы паміж сабой не кантактуюць (гаворка пра вялікія школы, я працавала ў такой) і іх не цікавіць вашая вялікая нагрузка па іншых прадметах.

Мне асабіста завуч пагражала праблемамі, калі я не вазьму факультатывы, але пазней высветлілася, што нагрузку факультатываў я набрала «добраахвотна».

Мне казалі, што будуць надакучаць праверкамі, але на справе ані разу не прыйшлі.

Усе мае распрацаваныя па апошніх методыках урокі ды інтэрактыўныя семінары нікога не цікавілі і былі зробленыя толькі для таго, каб пакласці на палічку.

Пільна сачыце за колькасцю гадзін факультатываў: былі выпадкі, калі праведзеныя заняткі не фіксаваліся завучам — памыляюцца яны, натуральна, у свой бок.

### Вы не абавязаны вадзіць дзяцей у выходныя на пазашкольныя мерапрыемствы

Каб вы разумелі, яны не аплачваюцца, дый дзеці звычайна не тыя, у якіх вы выкладаеце. Адмовіць цяжка, але трэба, бо варта пагадзіцца адзін раз — і на вас будуць выязджаць кожныя выходныя.

Настаўнікі замежных моў часам не маюць класнага кіраўніцтва, лічацца менш нагружанымі, таму імі закрываюць арганізатарскія дзіркі.

### Выбірайце школу побач з домам

Мінімум раз на тыдзень будуць нарады ці семінары, на якіх адміністрацыя будзе патрабаваць прысутнічаць. Пакуль настаўнікі паспявалі схадзіць дадому, я сядзела ў школе, бо ездзіць далёка дамоў, каб адразу вяртацца, не было сэнсу.

### Змагайцеся за правы

У нашай школе працавала восем настаўнікаў англійскай мовы, дзве звольніліся пасярод года, тры сышлі на бальнічны, адна з'ехала з дзецьмі ў санаторый на месяц. Замест таго, каб ставіць замены іншымі прадметамі ці шукаць настаўнікаў, мы працавалі ўдзвюх за ўсіх. Адна вяла ў цэлых класаў старэйшай школы, другая — ва ўсіх астатніх. Гэта ніяк не аплачвалася, не фіксавалася, не афармлялася як замены. Калі я пачала высвятляць, хто нясе адказнасць за дзяцей, таму што фактычна і дакументальна я ў іх не выкладаю, — як выкладаць з такой колькасцю, бо гэта не адпавядае спецыфіцы прадмета, — завуч толькі пасмяялася ды параіла пасля працы выпіваць, каб настрой падняўся…

Аказалася, што не трэба хваляваецца, галоўнае, каб быў выгляд, што ўрокі праводзяцца. Пазней я даведалася, што ўсе замены афіцыйна фіксуюцца ў адмысловы журнал, паводле запісаў якога аплочваюцца дадатковым чынам. Аб'яднанні ж трох-чатырох груп, то бок праца некалькіх настаўнікаў, выкананая адным, не фіксаваліся ніяк.

### Цякучка кадраў дзікая!

Нас не паважаюць, абражаюць і прымушаюць. У маёй школе з васьмі настаўнікаў англійскай мовы да канца года застаўся толькі адзін — адпрацоўваць размеркаванне. Сыходзілі як маладыя, так і настаўніцы з вышэйшымі катэгорыямі.

Маладых настаўнікаў у сучаснай школе не цэняць, бо на іх месца хутка прыйдуць новыя, на чарговыя два гады адпрацоўкі. Дурная сістэма…

**Марыя Амялюсік, Гомель**

## «Для Чаргінца, як афіцэра, гэта нізка і непрыстойна»

Піша вам сталы чытач Ціханавец Сяргей.

Прачытаў кнігу Мікалая Чаргінца «Операция «Кровь». Падзеі, апісаныя ў творы, адбываюцца ў Сёмкаве пад Мінскам. Фашысты забіралі кроў у дзяцей. Кроў улівалі сваім параненым.

Кніга як мастацкі твор мне спадабалася. Я не ведаю дакладнай гістарычнай праўды, усяго немагчыма апісаць, што тады адбывалася. Дый гэта ж не галоўнае. Я пра іншае.

Мне, як грамадзяніну і верніку Хрыстову, засела ў галаве тое, што самыя пачварныя паслугачы фашыстаў носяць прозвішчы Антончык, Вайтовіч, Ліпковіч.

Наколькі я ведаю, Антончык — былы дэпутат, які ў свой час не пабаяўся сказаць праўду пра карупцыянераў.

Вайтовіч — вучоны, акадэмік, чалавек прагрэсіўных поглядаў.

Ліпковіч — вядомы блогер, які цвяроза глядзіць на ўсе на ўсе падзеі нашага жыцця, некалі ў Севастопальскім парку спаліў кнігу спадара Чаргінца пад назваю «Тайны Авальнага кабінета».

Можна не згаджацца з поглядамі людзей, не пагаджацца з іх палітычнай пазіцыяй, але апускацца да такой брыдоты — гэта, як кажуць, прыехалі. Ды тут яшчэ і здзек з ахвяраў Халакосту… Для Чаргінца, як афіцэра, дый проста чалавека, гэта нізка і непрыстойна.

Хрысціянін і былы воін-афганец,

**Сяргей Ціханавец, Бягомль (Докшыцкі раён)**

## Прыватныя абвесткі

**Віншуем шаноўнага пана Алеся Юркойця** з днём нараджэння! Зычым моцы целу, бадзёрасці духу і пазітыву розуму! Са спадзяваннем на хуткую сустрэчу і найлепшае

**Сябры з Вялейкі, Мінска**

Рэдакцыя далучаецца да віншаванняў і пажаданняў!

### Ад рэдактара

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**

**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

Гіпотэза

# Найважнейшы камень Беларусі

Камень для людзей каменнага веку, дый пазней, быў неабходным у розным выглядзе і ў розных памерах. Цэлыя эпохі названыя «каменнымі»: палеаліт, неаліт. Корань *-men больш старажытны за слова камень, у якім *-ка — гэта прыстаўка.

Знаёмыя нам словы з лацінскай мовы «цэмент», «пастамент», «манумент», якія абазначаюць паняцці, звязаныя з каменем, утрымліваюць корань -men.

З гэтым коранем звязана і беларускае слова «мянташка» — каменны брусок, якім сяляне менцязь косы, і «крэмень».



Беларусы здаўна асабліва шанавалі камяні. Сведчаннем таму — у тым ліку Барысавы камяні на Полаччыне.

Індаеўрапейскі корань *men «мяць, расціраць» звязаны з расціраннем зерня на муку каменнымі зерняцёркамі. На санскрыце «мані» — каштоўны камень.

Гэты ж корань можна заўважыць і ў словах кельцкага паходжання: менгіры — дагістарычныя культавыя камяні, стаячыя ўгару, і дольмены, — гарызантальныя збудаванні, пакладзеныя на дол.

Апрацоўваць камяні, рабіць з іх розныя прылады было нялёгкай справай, таму такія вырабы мелі высокі кошт і былі прадметам абмену, мерай вагі — менай, тым, што зараз называюць гірай — словам цюркскага паходжання.

Цудоўным вынаходніцтвам стаўся бязмен, прылада, якая магла ўзважваць, і ў наш час яе можна яшчэ знайсці ў беларускіх вёсках.

Кельцкі ўплыў на жыхароў старажытнай Цэнтральнай Еўропы быў вельмі моцны. Рэлігіяй нашых далёкіх продкаў, як і кельтаў (галаў), была прырода, лес, камень — вельмі важны элемент у сістэме міфалогіі нашых продкаў, з якім зязваўся ніжні, падземны свет.

Кельцкіх жрацоў звалі друіды, якія сваіх вучняў, паслядоўнікаў вадзілі ў лясы, навучалі іх вусна, бо запісваць, на жаль, іхныя лекцыі кельцкай традыцыяй было забаронена. Дайшлі кельты-галы да Галіцыі ў заходняй Украіне, да нашай Дзвіны, дзе на мяжы з Латгаліяй стаіць беларускі горад Друя, там у Дзвіну ўпадае рэчка Друйка,якая выцякае з возера Дрывяты.

Можа, самі кельты тут стала і не жылі, але калі ўлічыць, што славянамоўныя плямёны прыйшлі на нашую тэрыторыю пад націскам германцаў з захаду, дзе кельцкія ўплывы былі вельмі моцныя, то яны не маглі не прынесці і некаторыя кельцкія элементы духоўнай і матэрыяльнай культуры. Культ дрэва, культ каменя быў у нечым агульным для кельтаў-галаў і нашых продкаў.

На кельцкае паходжанне назвы Нёман указваў акадэмік Шахматаў, праўда, з ім не згаджаўся другі знакаміты філолаг Фасмер.

Але для чаго пішацца гэты артыкул? Яшчэ зусім нядаўна на менскім капішчы стаяў дуб Волат і была крыніца з гаючаю вадою. Да 900-годдзя хрышчэння Русі царкоўныя і свецкія ўлады знішчылі святую крыніцу, спілавалі дуб Волат, толькі не здолелі зрушыць каменнага Дзеда, але ў 90-х гадах пры дапамозе тэхнікі яго перацягнулі за горад. Цяпер ён у музеі камянёў.

Я думаю, ад таго кораня — «мен» — і пайшла назва Менск. Якому пакланяліся нашыя продкі, да якога тысячу, а то і болей гадоў хадзілі. Ка мен — камень.

Жыхару цяперашняга двухмільённага Менска можа падацца незразумелым, што ад нейкага не такога ўжо вялікага каменя магла пайсці назва горада, а вось ад рэчкі Менкі — іншая справа, як сцвярджаюць некаторыя вучоныя.

Але ж некалькі вялікіх гарадоў Еўропы носяць кельцкія імёны: Лондан (Londinium), Бон (Bonna), Вена (Vindobona), Кракаў (Carrodunum). Менск — сярод іх!

**Мар'ян Пецюкевіч, Гомель**

# «Мы пакінулі дзіця паміраць і пайшлі наладжваць сваё жыццё»

**Рэзанансная справа дайшла да суда.**

У студзені 2015 у пад'ездзе адной са шматпавярховак Гомеля жыхары пачулі крык немаўляці. Выйшлі паглядзець і ўбачылі маленькага хлопчыка. Аднаго. Выклікалі міліцыю. Пачаліся пошукі бацькоў. Спачатку думалі, што гэта дзіця кагосьці з пад'езда. Але не. А пакуль лавілі маці, следчыя раскрылі іншую страшную таямніцу: адшукалі іншае дзіця гэтай жа жанчыны, мёртвае. Блізу года да гэтага яна нарадзіла яшчэ і дзяўчынку. Цела дзіцяці паспела муміфікавацца — так доўга яно нежывое праляжала ў кватэры.

Цяпер у Гомелі ідзе суд над Віялетай, а разам з ёй судзяць і біялагічнага бацьку памерлай дзяўчынкі Максіма.

У абвінавачанай у яе 32 гады было пяцёра дзяцей. Траіх старэйшых (2002, 2006 і 2007 гадоў нараджэння) выхоўвае бабуля, а хлопчыка, якога яна кінула ў пад'ездзе, ужо ўсынавілі.

Віялета не была замужам. Пасля нараджэння першага дзіцяці яна пазнаёмілася з Максімам. Ён на чатыры гады старэйшы. Ад яго нарадзіла яшчэ дваіх дзетак. Разам жылі ў Віялецінай мамы, але не бралі шлюб. Праўда, зяць пастаянна канфліктаваў з цешчай. «Ён на мяне руку падымаў, ён увогуле псіхічна хворы. Грошы не зарабляў, дзецям не дапамагаў», — так характарызуе яго бабуля дзетак.


NAVINY.BY

«Пытанне ўпіралася ў грошы. Я не мог стаць на ногі, былі фінансавыя праблемы, вось і не рэгістравалі адносіны. Яна атрымлівала выплаты як маці-адзіночка», — прыводзяць словы абвінавачанага Максіма на судзе *naviny.by*.

Пара раз'ехалася. Але Віялета была зноў зацяжарыла: выношвала дзяўчынку. Максім пра гэта нібыта не ведаў. І толькі пасля нараджэння малой усё раскрылася.

У адзін з дзён, калі вярнуўся з працы, убачыў у дзвярах запіску (мабільніка Віялета не мела): калі хочаш убачыць дачку, прыходзь у такі час на стадыён.

«Прагульвалася з каляскай. Ён спытаўся: «Гэта мая дачка?» Я адказала, што так. Ён паглядзеў у каляску і сказаў, што дзяўчынка падобная да яго. Запрасіў мяне ў госці. У краме купілі гарэлку, піва, цыгарэты і крабавыя палачкі. Сняжана спала ў калясцы, мы на кухні выпілі».

«Вы ж разумееце, што калі ў чалавека нараджаецца дзіця, то ён напіваецца», — тлумачыў Максім.

За чаркай пацякла размова. Жанчына расказала, што атрымала нядаўна выплаты на дачку — 23 мільёны, якія аддала маці. А былы сужыцель пачаў сварыцца: маўляў, яму патрэбны былі грошы на новы мабільнік. Але на гэтым і супакоіліся. Віялета ж прапанавала пачаць сумеснае жыццё наноў. Без дзяцей. «Мы пакінулі дзіця па ўзаемнай згодзе і пайшлі наладжваць сваё жыццё, каб нам ніхто не перашкаджаў», — заявіў Максім. Так яны пакінулі дзяўчынку ў калясцы, замкнулі дзверы і сышлі.

Валацугамі цягаліся па горадзе і ваколіцах, за ежу дапамагалі дачнікам. За восем месяцаў яны ні разу не вярнуліся ў кватэру. Жанчына ўсё спіхнула на алкаголь: маўляў, была п'яная, нічога не разумела. Яшчэ нібыта спадзявалася, што дачку выратуюць. «Я думала, што прыйдзе маці мяне шукаць, пачуе, што Сняжана плача, і забярэ яе», — так на судзе тлумачыць свой учынак.

Пакуль бадзяліся, Віялета зацяжарыла зноў. У канцы снежня 2014 у яе пачаліся роды. У радзільні назвалася чужым імем, але адрас дала Максімаў.

Пасля затрымання Максім заявіў, што задушыў дачку. На судзе, праўда, даводзіў, што прызнаўся пад ціскам следчага. Той пагражаў забяспечыць смяротнае пакаранне, калі не возьме віну на сябе. Віялета падчас следства пацвердзіла словы сужыцеля, а пасля сказала, што агаварыла яго. Вызначыць прычыну смерці дзяўчынкі эксперты не здолелі.

Мужчыну пагражае самае суровае пакаранне — ажно да расстрэлу, жанчыне — да 25 гадоў калоніі.

**Кастусь Матушыч**

# Падлетак забіў малалетняга брата і кінуўся на маці

**Трагедыя пераходнага ўзросту.**

Іншая страшная гісторыя скалынула Гродна. Тут падлетка падазраюць у забойстве малалетняга брата і замаху на маці.

Спачатку 19 жніўня па трывозе паднялі пажарных: гарэла ў дзевяціпавярховіку. Час быў ужо позні — 22.32. З кватэры на сёмым паверсе ратавальнікі вынеслі дзіця і жанчыну. Медыкі канстатавалі смерць 5-гадовага хлопчыка, а яго маці шпіталізавалі. Да справы падключыліся следчыя.

«Падчас агляду месца здарэння былі атрыманы доказы гвалтоўнай смерці дзіцяці і наўмыснага падпалу кватэры. Па падазрэнні ў здзяйсненні названых злачынстваў быў затрыманы зводны брат загінулага. Паводле папярэдняй інфармацыі, паміж ім і маці адбыўся канфлікт на глебе асабістых непрыязных адносін, у ходзе якога ён забіў малодшага брата, а таксама паспрабаваў пазбавіць жыцця маці. Палічыўшы, што яна памерла, ён падпаліў кватэру і збег», — паведаміў прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч.

Падрабязнасці страшныя. 16-гадовы падлетак кінуўся на маці з кулакамі, а затым ударыў яе малатком па галаве. Меркаваў, што яна ўжо мёртвая. Затым ручнікам задушыў брата. Па кватэры разліў некалькі бутэлек гарэлкі і падпаліў. Назіраў за тым, што адбывалася ў яго кватэры, з пад'езда суседняга дома.

16-гадовы гарадзенец — другакурснік тэхналагічнага каледжа. І хоць на месцы вучобы характарызаваўся станоўча, да адміністрацыйнай адказнасці прыцягваўся. У абласной міліцыі расказалі, што хлопца затрымлівалі за ўжыванне алкаголю і крадзеж гарэлкі з крамы.

Жанчына выхоўвала трох сыноў сама. Старэйшы, народжаны ў першым шлюбе, забіў малодшага ад другога мужа. Праўда, другі муж таксама не жыў з сям'ёй.

**СМ**



MCHS.BY

# Паўторна асуджаны сын экс-ідэолага Замяталіна

**Яму вынеслі новы прысуд за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.**

У Мінску скончыўся працэс над Дзянісам Замяталіным. Сына былога ўплывовага чыноўніка суд прызнаў вінаватым у прадпрымальніцкай дзейнасці, што ажыццяўляецца без дзяржаўнай рэгістрацыі, спалучанай з атрыманнем даходаў у асабліва буйным памеры, здзейсненым арганізаванай групай. З улікам пакарання, раней прызначанага Замяталіну гэтым жа судом, ён асуджаны да шасці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Яму забаронена займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю цягам пяці гадоў.

Разам з Замяталіным па справе праходзяць Уладзімір Разумовіч, Валянцін Сайко і расіянін Аляксей Кулік. Яны прызнаныя вінаватымі ў здзяйсненні аналагічнага злачынства і прысуджаныя кожны да трох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

З чацвярых абвінавачаных па грамадзянскіх пазовах суд пастанавіў спагнаць парадку 70 млрд рублёў. У ліку маёмасці, якая будзе канфіскавана, — аўтамабілі «Лексус», «Акура», «Аўдзі».

17 красавік гэтага года Дзяніс Замяталін быў асуджаны гэтым жа судом па тым жа складзе злачынства, але ў іншай кампаніі. Суд прызначыў яму пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на пяць з паловай гадоў у калоніі.

**БелаПАН**

## Сцісла

### Нажніцамі закалола немаўля

У Паставах у гарадскую бальніцу была дастаўлена 23-гадовая жанчына з пасляродавым крывацёкам. Аднак высветліць, дзе знаходзіцца дзіця, дактары не здолелі. На наступны дзень у кватэры маладой мамы знайшлі труп нованароджанай дзяўчынкі з множнымі колата-рэзанымі ранамі. Устаноўлена, што жанчына закалола малое нажніцамі.

### У аквапарку патанула дзіця

Адзін з наведвальнікаў сталічнага аквапарка *Dreamland* заўважыў, што дзіцяці стала дрэнна, пасля чаго дастаў яго з вады. 10-гадовы хлопчык быў без прытомнасці. Была выкліканая брыгада хуткай медыцынскай дапамогі. У бальніцы ён, так і не ачуняўшы, памёр. Хлопчык жыў у Гродзенскай вобласці і гасціў у Мінску ў сястры, з якой і прыйшоў адпачываць у аквапарк.

### Шматдзетную маці адправілі за краты

У Магілёве 30-гадовую маці трох малалетніх дзяцей асудзілі на 7 гадоў калоніі за замах на забойства. Жанчына жыла з дзецьмі і братам у адной кватэры. У студзені 2015 дарослыя выпівалі. За чаркай разгарэлася сварка. Жанчына схапілася за нож і пырнула брата ў жывот і шыю. Той нож здолеў выхапіць і выкінуць. Медыкі мужчыну выратавалі.

### Раз'юшаная жонка падпаліла саперніцу

Канфлікт адбыўся на лецішчы, якое знаходзіцца ў межах Чачэрска. 41-гадовая жанчына, калі прыйшла на лецішча, заспела мужа з госцяй. Адбыўся скандал. Наліўшы ў кубак бензін, які стаяў на верандзе, гаспадыня лінула на ногі 38-гадовай пацярпелай ды кінула запалку. У выніку жанчына атрымала апёкі 1, 2 і 3 ступені з пашкоджаннем 18% цела. У яе таксама апёкавая хвароба і тэрмінгаляцыйная траўма. Пацярпелая шпіталізавана.

### Уцякалі ад міліцыі пад наркатой

У Мінску 20-гадовы хлопец на «Хондзе» не спыніўся на патрабаванні інспектара ДАІ, а толькі паддаў газу. Пераслед скончыўся, калі парушальнікі ў раёне вуліцы Сасновы Бор выскачылі за межы праезнай часткі. Міліцыя затрымала чацвярых хлопцаў, аднаму ўдалося збегчы. У салоне машыны знайшлі псіхатропныя рэчывы і гашыш. А ўсе затрыманыя былі пад наркатой. Кіроўцу затрымалі пазней, а ў яго дома знайшлі наркотыкі — хлопец імі гандляваў.

**КМ**

# Украіна, якая моліцца

Затока — Адэса — Львоў — Карпаты — Кіеў. Піша **Андрэй Дынько**.

Ты стаіш сярод жоўтага мора сланечнікаў, а перад табой шумяць хвалі Чорнага мора. Або ты стаіш на паланіне хрыбта, абапал цябе дзве даліны, стаіць густы дух поўнага кветак, ніколі не кошанага лугу. Пасля ты сядзіш за столікам у цёмным дворыку сярэднявечнай камяніцы ў Львове, пахне кавай і штрудзелем. Нічога такога ў нас у Беларусі няма, усё гэта можна перажыць ва Украіне.

Мы праехалі Украіну з поўначы на поўдзень. Пабылі на моры ў Затоцы, у Адэсе, Львове, Карпатах і Кіеве. Тры тыдні падарожжа каштавалі нам на траіх столькі, колькі каштуюць два тыдні ў Турцыі ці Грэцыі на аднаго.

Падзенне грыўні зрабіла цэны ва Украіне прыемна нізкімі для беларусаў. А адсутнасць турыстаў з Расіі вымушае ўкраінскую сферу сэрвісу змагацца за кліентаў.

Я ўжо не кажу, што надзвычай цікава для беларуса назіраць за палітычнымі працэсамі ва Украіне і людзьмі непасрэдна. Украінская нацыя ўступіла ў перыяд інтэнсіўнага фармiравання. Нацыянальная свядомасць на нашых вачах распаўсюджваецца на поўдзень і ўсход Украіны. Гісторыя творыцца на нашых вачах.

У мінусе — неабходнасць падарожнічаць цягніком ці самалётам. Украінскія дарогі настолькі кепскія, што шкада машыны.

А зараз падрабязней пра гэта і іншае.

### Цягнікі

Білеты на цягнік ва Украіне нашмат таннейшыя, чым калі купляць з Беларусі. Да прыкладу, калі купэ на беларускі фірмовы цягнік да Кіева каштуе 1,1 млн, а купэ Мінск—Адэса — 1,5 млн, то купэ ад Кіева да Адэсы будзе каштаваць усяго каля 200 тысяч рублёў, прычым існуюць дзіцячыя білеты для дзяцей да 14 гадоў.

Таму многія беларусы бяруць білеты да найбліжэйшай украінскай станцыі, а стуль запасаюцца квіткамі на ўнутрыўкраінскія цягнікі.

Мусіце ўлічваць, што ступень камфорту ва ўкраінскіх паяздах меншая, чым у беларускіх. Мыла, як правіла, няма нават у купэйных вагонах, а кандыцыянерам з'яўляецца акно, што на піку гарачыні стварае некамфорт.

Але ў цэлым украінская чыгунка функцыянуе спраўна.

У Адэсе цягнікі праважаюць рамантычнай песняй Леаніда Уцёсава «Ля Чорнага мора»...

### Ідэальнае месца для «таннага турызму»…

500-грамовая бялютка — там вы спазнаеце, што такое белы хлеб! — хала ці калач каштуюць на нашы грошы 4000 рублёў.

Малако, масла, іншыя базавыя малочныя прадукты — на працэнтаў 50 таннейшыя, чым у Беларусі.

Кілбасы, мяса — на працэнтаў 50 танней таксама. Праезд у трамваях, метро таннейшы, чым у нас. Як і цягнікі, і хостэлы (ад 5 даляраў за ноч), гатэлі. Можна падарожнічаць і пры гэтым траціць менш грошай, чым за той жа час разышлося б у Беларусі.

### Кіеў

Сталіца Украіны — горад з вялікім мінулым. У горадзе вялікае метро (канечне пабачце станцыю «Залатыя вароты» з шыкоўнымі мазаікамі, стылізаванымі пад старакіеўскія), шмат славутых цэркваў і манастыроў і ўся культурная інфраструктура сталіцы — ад Оперы да заапарка.

І дарослыя, і дзеці з замiраннем сэрца дакранаюцца да памятак Майдану — жывой гісторыі.

### Культура

Ва Украіне беларусам шмат што па кішэні. Дзіцячы білет у даволі багаты, у парку размешчаны кіеўскі заапарк каштуе на нашы грошы 17 тысяч.

Дарослы білет у дэльфінарый у Адэсе ў адкрытым басейне — 170 тысяч.

Сямейны білет у Нацыянальны гістарычны музей Кіева з яго захапляльнай калекцыяй трыпольскіх старажытнасцей і спазнаваўчай дыярамай Княжага Кіева — 45 тысяч. Дарэчы, у апошнім ёсць і залы, прысвечаныя перыяду савецкага таталітарызму.

### Фантастычная садавіна

На поўдні, у тым ліку ў Адэсе, шыкоўная свежая садавіна — мясцовыя персікі, абрыкосы па 15 тысяч за кілаграм, фантастычна салодкія памідоры па 6—12 тысяч, нішто сабе дыні па 12 тысяч.

### Дарогі ва Украіне

Гэта мама дарагая.

Хуткасць перасоўвання тут нашмат ніжэйшая, чым у Беларусі, бо даводзіцца пільнаваць ямы, аб'язджаць іх, нават на трасах міждзяржаўнага значэння.

Нават траса Кіеў — Адэса месцамі разбітая, і кіроўцы лавіруюць між выбоінамі.

Глыбіня ямаў такая, што можна ўраз выбіць сабе падвеску.



Львоў — горад з непаўторнай атмасферай.


У Львове больш за 50 «тэматычных кавярняў».

### Гэта моладасць вывозяць

Б'юць па воку бясконцыя эшалоны з лесам-кругляком. З Беларусі вывозіць кругляк забаронена, улады патрабуюць перапрацоўваць яго на месцы, што правільна. А страявы карпацкі лес гоняць на экспарт такі які. Успамінаецца верш Танка: «Гляджу і гляджу з-пад рукі, як моладасць нашу вывозяць».

Масава выязджае з Украіны і моладзь. Гэта сапраўдны праклён нашага часу: адток мазгоў з нашых краін — у свабодныя грамадствы Захаду.

### Мода на беларускае

Яна ёсць! Апафеоз яе — мясцовае марожанае пад беларускамоўным брэндам «Белая бяроза» і яго рэкламны слоган: «Марозіва з беларускага масла!».

Усе ўкраінцы ведаюць, што ў Беларусі добрыя дарогі і якасныя прадукты.

Украінцы таксама ўдзячныя за пазіцыю, якую Беларусь заняла адносна спробы Расіі захапіць Данбас. Пастаўкі беларускага паліва ў 2014 былі крытычна важнымі для ўкраінскай арміі.

### Дзе ахвяруюць сродкі на ўкраінскую армію ці для ахвяраў Данбаса

Сродкі збіраюць усюды: у крамах, кавярнях, музеях. На аптэчкі для байцоў, на лекаванне параненых. Гэта агульнанацыянальная справа. Цяжка сказаць, што з тых грошай даходзіць да людзей у патрэбе.

Аднак ва Украіне і ўжывую скрозь сутыкаешся з вайскоўцамі, іх сем'ямі — многія з іх жывуць небагата. Мабілізаваныя ёсць у кожным населеным пункце.

**Есці**

Месцаў паесці нашмат больш, чым у Беларусі. Абсалютна неапраўдана браць ежу з сабой. У нас у Беларусі гэта часам неабходнасць. Можна прыехаць на Браславы, і там не будзе ніводнай адкрытай кавярні ў радыусе 50 кіламетраў. Ва Украіне такога не бывае. Ёсць месцы на ўсякі густ і кашалёк.

**Цэны ў кавярнях**

Наесціся ў смачных кавярнях самаабслугоўвання тыпу нашага «Лідо» можна за 2—3 даляры. Назвы такіх украінскіх сетак — «Пузата хата», «Украінскія стравы» ды іншыя. Украінскі боршч там — 8000 за порцыю, варэнікі — 12 тысяч, маладая бульба са стэйкам — 30 тысяч.

За тыя самыя 2—3 даляры можна паесці ў дробных кавярнях і сталоўках у курортных гарадах.

За 5—6 даляраў можна паабедаць ці павячэраць у добрых рэстарацыях са сваім стылем.

За 10—12 даляраў — у шыкоўных тэматычных месцах з асаблівай кухняй і атмасферай, якіх у Беларусі — адзінкі.



Кіеў. На партрэце Жызнеўскага на імправізаваным мемарыяле на вуліцы Герояў Нябеснай Сотні — беларускія стужачкі.

# на беларускіх турыстаў

Толькі што ўкраінцы не хочуць называць гэта вайной, упарта называюць «АТО» — антытэрарыстычная аперацыя.

На захадзе Украіны патрыятызм усеагульны. На поўдні патрыятычныя сем'і і бізнэсы пазнаеш па нацыянальных сцягах і атрыбутыцы каля дамоў і гатэляў.

### Карупцыя ў вярхах ці карупцыя ў нізах?

Канечне, першапрычына ўкраінскай руіны — у тых нафтавых і газавых схемах, на якіх нажываўся дзясятак кланаў. Але ў мяне ўзнікла пытанне: што лягчэй выкараніць, карупцыю зверху, дзе досыць некалькіх валявых рашэнняў, ці карупцыю знізу, калі плацяжы масава — у гатэлях, таксі, крамках — не праводзяць праз касавыя апараты?

Між уладай і грамадствам ва Украіне заключана сацыяльны кантракт: мы заплюшчваем вочы на тое, што крадзяце вы, а вы заплюшчваеце вочы на тое, што крадзем мы.

Бядуюць ад такога кантракта тыя, каму красці няма як, няма чаго або сумленне не дазваляе. Яны і былі рухальнай сілай украінскіх рэвалюцый.

### Чырвона-чорныя

А пасіянарная заходняя Украіна працягвае спеліць нацыянальную ідэю. Нацыяналістычныя сілы тут набіраюць сілу. Раней такога не было — цяпер народ масава вывешвае чырвона-чорныя сцягі колішняй Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў і Украінскай паўстанцкай арміі. Яны на машынах — часам на дабітых «Жыгулях» і УАЗах, — на крамах. І нават на некаторых сельсаветах, дзе рэй вядуць нацыяналісты.

Так, ва Украіне рэальна выбіраюць, у тым ліку сельсаветы, і народ рэальна разбіраецца ў палітыцы.

Праўда, гэта ўсё яшчэ «грамадства тэлебачання», якое часта мяняе куміраў.

Парашэнку па-ранейшаму давяраюць. Ізноў выраслі рэйтынгі «Бацькаўшчыны» Юліі Цімашэнка. Ёсць падтрымка і ў ваяўнічага «Правага сектара». Хлопцы рэальна ваявалі, патрыятычны электарат тое ацаніў.

### Кіраванасць

Насуперак пашыранаму стэрэатыпу, украінскае грамадства застаецца кіраваным. Пэўны дзяржаўны курс праводзіцца, імпульсы ад Кіева да вёсак даходзяць. Хоць гэта і не беларуская строга вертыкальная структура з яе падпарадкаваннем і дысцыплінай. Гэта больш складанага характару адносіны, дзе ўзаемаўлічваюцца магчымасці і інтарэсы розных груп, цэнтральных і мясцовых.

Мы былі ўражаны ўбачыць у бібліятэцы глухой вёскі ў Адэскай вобласці інсталяцыю, прысвечаную Героям Майдану. Такія сама стаяць на цэнтральных плошчах многіх гарадоў.

Дзейнасць украінскай улады стапарыцца там, дзе патрэбны вялікія інвестыцыі. Напрыклад, у дарогі. Грошай няма.

Беларусь прадалася Расіі, і Масква ёй шчодра плаціць за гэта. За тыя субсідыі рамантуюцца трасы, дворнікі мятуць вуліцы, а варта правярае валізы на ўваходах у метро. Ва ўкраінскай дзяржавы грошай на гэта няма.

Хочацца спадзявацца, што структуры, якія выраслі знізу, а не зверху, акажуцца жыццяздольнымі і моцнымі ў каранях.

**Затока**

Найбольшы курорт пад Адэсай, што расцягнуўся на 30 кіламетраў уздоўж пясчанай касы паміж морам і ліманам Днястра. Трохі нагадвае ўмовы Куршскай касы (Літва) і Хэльскай касы (Польшча). Але па касе ідзе скразная транзітная аўтадарога, і аўтэнтычны паўднёвы балаган робіць умовы адпачынку спецыфічнымі.

Пакоі з выгодамі каштуюць ад 10 даляраў за ноч (без вайфая і тэлевізара). Гатэль з трохзоркавым камфортам будзе каштаваць каля 20—30 даляраў з чалавека. Практычна ўсе гатэлі месяцца на «першай лініі» ад мора, бо Затока — гэта вузкая палоска сушы.

Купацца ў моры тут камфортна ад чэрвеня да верасня. У ліпені і жніўні вада стабільна цяплейшая за 22 градусы. У гэтым адрозненне ад вечна прахалоднага Балтыйскага мора.

Пляжы пясчаныя. У вадзе шмат медузаў.

Мора — заўжды мора. Але нам не дужа пашчасціла. У вадзе было шмат водарасцяў. У штыль яны асядалі, але пасля ветраных дзён у вадзе немагчыма было купацца. Яшчэ ў чэрвені такога не было. Магчыма, на колькасць водарасцяў паўплывала рана цёплая вясна гэтага года.

Побач з Затокай знаходзіцца старажытны горад Белгарад-Днястроўскі (заснаваны старадаўнімі грэкамі як Ціра; пры Малдавіі — Чэтаця-Альба; пры турках — Ак-Керман).


Затока — курорт пад Адэсай.

### Белгарад-Днястроўскі

Заснаваны ён быў як грэчаская калонія. Пасля захопу гунамі заняпаў. Адрадзіўся як крэпасць славянскага племені ціверцаў, што засялялі міжрэчча Дуная, Днястра і Паўднёвага Буга.

Вялізная крэпасць была тут разбудаваная малдоўскім гаспадаром Штэфанам Вялікім, які наіўна спадзяваўся выстаяць супраць туркаў. Яе ўдала рэстаўравалі румыны ў часе, калі Бесарабія ўваходзіла ў склад Румыніі (1918—1940).


Старая крэпасць у Белгарадзе-Днястроўскім.

Прыемна палазіць па крапасных мурах і вежах. Нягледзячы на шыльдачкі «забаронена», ніхто за выкананнем забаронаў ва Украіне не сочыць.

### Патрыятызм

Украінская мова чуецца масава нават у Адэсе. Часта сустракаюцца хлопцы ў кашульках з нацыянальнай сімволікай ці надпісамі «Мы жывём на сваёй, Богам данай зямлі». Шмат дзе вывешаны нацыянальныя сцягі. А як сляды дзяржаўнай кампаніі, у жоўта-блакітнае пафарбаваныя коміны, платы і масты.

Прарасійскія настроі — у меншасці. Большасць у Адэсе звязвае надзеі з новым губернатарам Міхаілам Саакашвілі. «Хоць бы нам не лег грех на душу, хоть бы наша мафия его не убила», — сказала нам інтэлігентная бабулька ў музеі.

### Адэса

Запамінальны горад з дагледжаным гістарычным цэнтрам.

Адэса будавалася як вітрына Расійскай Імперыі на поўдні, для якой імператары не шкадавалі падатковых ільгот.

Пасля захопу Буджака Расія найперш выселіла стуль мясцовае татарскае насельніцтва, таму ўсё мясцовае жыхарства прышлае і, па гістарычных мерках, нядаўняе.

Ад заснавання Адэса засялілася самым стракатым людам: расійскія чыноўнікі, украінскія сяляне, шматлікія яўрэі, малдаване, перасяленцы з Албаніі, Італіі, Францыі, Швейцарыі, грэкі, татары. Гэтая сумесь і стварыла каларытную, хамаватую і разбітную адэскую «народнасць».

Горад вылучаецца архітэктурай, портам, пляжамі і рэльефам. У Адэсе цікавыя музеі, багатае культурнае жыццё і шмат каларытных кавярань і рэстаранаў.

### Трыпольская культура

І Археалагічны музей Адэсы, і Гістарычны музей Кіева маюць выдатныя калекцыі артэфактаў той загадкавай культуры VI—III тысячагоддзяў да нашай эры. Гэта тое, чаго нідзе больш не пабачыш.



І гэта сапраўды загадка. У той час у Еўропе іншай культуры такога ўзроўню не было. Грэкі дасягнулі чагосьці падобнага толькі праз тысячы гадоў. Трыпольцы будавалі вялікія паселішчы, але таямнічым чынам перыядычна і, відаць, рытуальна спальвалі іх і пераходзілі на новыя месцы.

Яны рабілі керамічныя макеты сваіх будучых дамоў і свяцілішчаў. І ляпілі дзівосныя парныя рытуальныя сасуды — у навуцы іх называюць біноклепадобнымі.

Земляробы-трыпольцы жылі на тэрыторыі Правабярэжнай Украіны і Румынскай Малдовы, пакуль іх не заваявалі плямёны жывёлаводаў, што жылі ўсходней ад іх, з нашмат менш вытанчанай культурай.

### Борошно і «Валынцы»

Бедненька жыве ўкраінская глыбінка. Найперш людзі скардзяцца на платную медыцыну. Каб зрабіць аперацыю — плаці! У прадуктовай краме ў цэнтры вёскі ёсць усё, што і ў магазінах Белкаапсаюза, але прадаюць таксама мяхамі на 25 кг «борошно» — муку. У Беларусі такога не сустрэнеш ужо.

Дапатопныя «Валынцы» вырабу Луцкага аўтазавода яшчэ сустракаюцца на дарогах. У вялікай колькасці ездзяць таксама савецкага часу «Жыгулі», ЗІЛы і КрАЗы. Мы бачылі адзін такі з жоўта-блакітным і чырвона-чорным сцяжкамі над кабінай. Кіроўцу было гадоў пад 70.

### Адпачынак у Карпатах спадабаўся вельмі

Хоць ён тут, канечне, залежыць ад надвор'я. Дык вось, нам з пагодай пашчасціла.

Галоўная асалода — хадзіць у горы. Нізкія, даступныя звычайнаму чалавеку, не альпіністу. У дождж, а тым больш частыя тут навальніцы ў горы не пойдзеш, асабліва з дзецьмі.

Працяг на старонцы 14.

**Ты стаіш на паланіне хрыбта, абапал цябе дзве даліны, стаіць густы дух поўнага кветак, ніколі не кошанага лугу. Словамі гэта не перадаць!**


Карпаты. Ярэмча. Дарога на гару Макавіцу.

# Украіна, якая моліцца на беларускіх турыстаў

Працяг са старонкі 13.

Вялікай і нечаканай асалодай было купанне ў Пруце. Мы і не думалі, што горная рака можа быць такой цёплай. Аказваецца, у сонечныя дні камяні моцна грэюцца, а ад іх — і хуткая вада. Падлеткаў з бухты проста не выцягнуць. Уявіце: злева — адвесная скала. Ззаду — чыгуначны мост і тунэль, у які ўязджаюць цацачныя мясцовыя цягнічкі. За перакатам Прут ударыецца ў скалу і завяртае. Ніжэй за перакат вада вымыла глыбокую бухту. Вада найчысцейшая, з горных крыніц, дзівосна мяккая, не сушыць скуры. На перакаце між камянямі — прыродны гідрамасаж, магутныя струмені між камянямі зносяць з цябе плаўкі, і немагчыма ўтрымацца ад смеху.

За пару соцень метраў вышэй б'е крыніца мінеральнай вады. Яна смярдзючая, з серавадародам, такую ў жыцці не забудзеш. Дактары кажуць, што яна добрая для ачышчэння арганізма ад радыенуклідаў.

Самая высокая гара Карпат — Гаверла, 2067 метраў. З усіх турыстычных гарадкоў на Гаверлу мікрааўтобусамі возяць экскурсіі, разлічаныя на прыезд уранку, пешы паход на вяршыню і вяртанне ўвечары. Каштуе такая паездка каля 100 тысяч рублёў на беларускія грошы (7 даляраў) з чалавека.

### Ярэмча

Адзін з самых папулярных курортаў Карпат, у горнай цясніне на рэчцы Прут. Жыве тут каля 8 тысяч чалавек.

Ярэмча выцягнулася ў горнай цясніне ўздоўж Прута. Узбоч дарогі паўсталі рознага памеру прыватныя гатэлі.

Найлепшы від на горад адкрываецца з гары Макавіцы, да якой вядзе спачатку так званая сцежка Доўбуша, а пасля пешы маршрут.

Тыповыя для Ярэмчы хаты — з тэрасамі.

Гэта дыктуецца кліматам. Тут частыя дажджы. На тэрасе пад дахам можна і пасушыць нешта. Такое рабілі ў Беларусі ў свірнах.

Таксама запамінаюцца вострыя стажкі і характэрныя азяроды, без якіх тут цяжка высушыць сена.

### Дачы Юшчанкі і Клічка

Месяцаца побач у прыселку Ярэмчы, які называецца Ямна, па дарозе на вадаспад Гук. Там, у горнай катлавіне, нават у летнюю спёку захоўваецца холад. Гэта такі тэмпературны феномен горных «звораў» — вузкіх цяснін.

### Трава

У Ярэмчы падворкі і ўзбочча пакошаныя, як і ў Беларусі.

### Сардэчнасць і сумленнасць

Характарызуюць гуцулаў. У гэтым сэнсе ў Карпатах адчуваеш сябе чалавекам, і сярод сваіх. Пад Адэсай жа сэрвіс нярэдка хамскі.

### Букавель

З размахам будуецца гэты горны курорт на мяжы Івана-Франкоўскай і Закарпацкай абласцей. Па словах гіда, па агульнай даўжыні пад'ёмнікаў гэта другі ў Еўропе курорт. Яго заклалі ўсяго гадоў 15 назад, а ўжо цяпер тут дзясяткі трас розных ступеняў складанасці і сотні гатэляў малых і вялікіх.

Яшчэ два дзесяцігоддзі таму вёска Паляніца была самай глухой у гэтай даліне. Тут нават не было калгаса ў савецкі час — амаль не было палёў, толькі паша на палянінах. А цяпер гуцулы прадаюць свае соткі часам па паўмільёна даляраў за надзел. Співаюцца пры гэтым адзінкі, традыцыя трымае.

У вёсцы за грамадскія грошы паставілі царкву ў гуцульскім стылі, школу з басейнам. Але дарога застаецца разбітай.

**Львоў**

Нефармальная сталіца Заходняй Украіны, горад, дзе ўкраінская мова абсалютна пануе. Вялікая частка горада была забудавана пры Аўстра-Венгрыі, і аўстрыйскія традыцыі тут вельмі адчувальныя.

Аб прыездзе ў Львоў не пашкадуеце.

**Беларускамоўныя экскурсаводы Львова**

Іх некалькі. Нам горад паказваў Андрэй Кусій. Спадабалася. Беларускую мову ён вывучыў з цікавасці і з прынцыпу: «каб паказаць беларусам, што «бандэраўцы» паважаюць беларусаў і могуць гаварыць па-беларуску лепш, чым яны самі».

**Тэматычныя кавярні Львова**

Іх можна наведваць нават экскурсійна, не сядаючы.

Іх у горадзе пяць дзясяткаў. Пачаць можаце ад тэатральнай кавярні, дзе старанна адтвораная рэчка Полтва, аналаг нашай Нямігі, што працякае цяпер пад правым крылом будынку. Ёсць кавярня гадзіннікароў, кавярня газніц (у Львове жылі іх вынаходнікі), кавярня Захер-Мазаха (ён тут вырас)… Пафасу ў гэтых кавярнях няма, яны проста душэўныя. Тут яны частка традыцыі.

Але беражыцеся: хочацца пакаштаваць і тое, і гэтае, рызыка для кашалька…



**Львоў, Опера. Насуперак легендзе, яе архітэктар не скончаў жыцця самагубствам ад таго, што яна прасядала.**



**У малюсенькім уніяцкім манастыры Святога Іллі ў Ярэмчы новую царкву ставяць па ўсіх правілах драўлянай карпацкай архітэктуры, без адзінага цвіка, і крыюць дранкай. Заўважце: на крыжы ручнік, вышыты выключна чорнымі ніткамі. У Беларусі такія бывалі толькі на частцы Палесся.**

### Па-гуцульску

Для мяне была асалода чуць гуцульскі дыялект. Ён захаваўся ідэальна. І фанетыка, і лексіка. Дзеці на ім гавораць.



**Мясцовая цікавостка — перакулены дом. А на доме вісіць чорна-чырвоны сцяг нацыяналістаў.**

Але гэта не проста «мова звычкі» — гэта «мова прынцыпу». Яны прынцыпова гавораць па-ўкраінску да ўсіх. І таму прыезды ў Карпаты робяцца вялікім нацыяналізуючым момантам для ўсходніх украінцаў. Пры мне кіеўцы і марыупальцы тут пераходзілі на ўкраінскую мову.

### Карпацкая Русь

Аўтамабілі марудна паўзуць па разбітай дарозе на Ябланецкі перавал. А за ім чакае блокпост. Улады Закарпацця спрабуюць спыніць плынь кантрабанды і пашыхтаваць мясцовыя ўзброеныя кланы. На блокпосце транспарт правяраюць і мытнікі, і міліцыя, і вайскоўцы.

На Ябланіцкім перавале, як і скрозь у турыстычных мясцінах Карпат, прадаюць сувеніры. Шырспажыў — майкі, фенечкі, талеркі — тут у 2—3 разы таннейшы, чым на Андрэеўскім узвозе ў Кіеве.

На перавале стаіць помнік 14 стральцам Карпацкай Русі. Гэта ў 1938 годзе, калі нацысты расчлянілі Чэхаславаччыну, украінскія актывісты спрабавалі стварыць у Закарпацці Карпацкую Русь — незалежную рэспубліку, каб яна стала ўкраінскім П'емонтам. Але гэта не ўваходзіла ў планы гітлерцаў, і венгерскія войскі хутка прыдушылі незалежнікаў.

За перавалам змяняецца выгляд жытла — пачынаюцца хаты, абабітыя дранкай-мазаікай. Закарпацце выразна бяднейшае за курортныя Ярэмчу і Букавель.

У Закарпацце людзі едуць на крыніцы мінеральнай вады. Але ў вёсцы Квасы яны сёлета праз сушу амаль перасохлі. Жарало з жалезістай вадой спынілася, а з вадой тыпу Арзні ледзь бруіцца, і людзі стаяць у чарзе гадзіну. Можна заняць чаргу і тым часам паабедаць у карчме побач. Або без чаргі залезці пад ваду ў суседнім Труфанецкім вадаспадзе.

**На вакзале на лавачцы тэалагічныя спрэчкі**

Чалавек, які стаў бамжом, ён парушае волю Божую ці не?

Ён кажа — не, раз ён бомж, значыць, на тое воля Божая.

Яна кажа — парушае. Бог хоча, каб чалавек пражыў жыццё годна, а чалавек грашыць, калі апускаецца.

Мы чакалі дызеля ў Ярэмчы, а побач з намі — украінцы. Яны вялі між сабой тэалагічныя спрэчкі. Абодва бакі на памяць зачытвалі ў сваю падтрымку радкі з Бібліі.

У духу кальвіністаў выказваўся немясцовы мужчына, і сам бамжаватага выгляду, у затаптаных ззаду сандалях. У тыповым духу грэка-каталікоў — немаладая жанчына, яе падтрымліваў бацька, чысценькі дзядок гадоў васьмідзесяці пяці.

Мужчына-фаталіст сярод спрэчкі раптам працытаваў па-беларуску прымаўку «Чужую бяду рукамі развяду»…

Вельмі цікава нам назіраць за людзьмі на Заходняй Украіне — яны свядомыя. У іх развітае і палітычнае, і нацыянальнае мысленне.

На гары зеўрае аканіцамі астоў дома адпачынку, які будавалі для савецкага Зорнага гарадка...

...Вось так выглядае Украіна-2015.

**P.S.** Пасля вяртання пагаварыў са знаёмымі гатэльшчыкамі з Адэсы. Яны шчаслівыя. Кажуць, столькі турыстаў, у тым ліку з Беларусі, у іх яшчэ ніколі не было. «Я гатовы асабіста перакапаць Перакоп», — жартуе ўладальнік гатэльчыка ў Затоцы. Без Крыма і Данбаса, выстаяўшы ў неабвяўленай вайне, Украіна адштурхнулася ад дна і пачынае ўздым.

*(Цэны пададзеныя зыходзячы з 1 даляр = 23 грыўні = 17 000 рублёў. Пакуль рыхтаваўся артыкул, курс не раз памяняўся...)*



# Вечны рэвалюцыянер

75 год таму памёр смяротна паранены **Леў Троцкі**.

Як можна пісаць гісторыю камуністычнага руху ў Расіі і ў свеце без Троцкага? Аніяк.

Чытаючы творы Льва Троцкага, нельга не бачыць яго літаратурны талент. Не цяжкі ленінскі сказ, не сталінская катэхізмоўка (пытанне — адказ, пытанне — адказ), а — іншы раз (не мною адкрыта) — ледзь не хемінгуэеўскі стыль. Нездарма яго, новага супрацоўніка яшчэ не ленінскай, а сацыял-дэмакратычнай «Іскры», Вера Засуліч празвала Пяром. Пра тое, што Троцкі з'явіўся ў шэрагах расійскай сацыял-дэмакратыі «адразу з бляскам», пісаў і былы яго аднадумец Анатоль Луначарскі.

Як помніцца, аўтар кнігі «Малады Сталін» Сайман Сэбарг Монтэфіёрэ спрабаваў аспрэчыць тэзіс Троцкага пра тое, што Сталін — геніяльная пасрэднасць. І сам жа напісаў, што Троцкі — бліскучы, ганарлівы і нават сноб. Сноб не ў тым сэнсе, што ён, Лейб, сын фермера Давыда Браншэйна, хацеў трапіць у кампанію да арыстакратаў (гэтай кампаніяй ён пагарджаў), а ў тым сэнсе, што ён сам быў арыстакрат. Скажам так: арыстакрат духу, які мае высокі інтэлект, аўтарытэт і ведае сабе цану.

У сэнсе інтэлекту яго можна паставіць побач з Леніным. Яны абодва ведалі сабе цану. Для іх абодвух не існавала аўтарытэтаў. Нават перад патрыярхам расійскай сацыял-дэмакратыі Георгіем Пляханавым не схілілі галаву і прылюдна палемізавалі з ім. І абодва (як, дарэчы, і Пляханаў) пры нагодзе маглі высмеяць чалавека, які інтэлектуальна стаяў ніжэй за іх. Праўда, на гэтым падабенства Троцкага і Леніна заканчваецца.

Троцкі быў надзелены шчодра і літаратурным талентам, і





**Троцкі са сваёй аховай, 1919.**

талентам тэарэтыка, аналітыка, арганізатара, прамоўцы. А яшчэ ён быў мужны чалавек. Ленін дбаў пра сваё здароўе і бяспеку. З турмы і ссылкі ён не ўцякаў, а дабыў да канца тэрміну. З Расіі ў Еўропу ён нелегальна не прабіраўся, а ехаў, маючы законны пашпарт, з камфортам у цягніку. У рэвалюцыйным 1905-м ён не кінуўся на злом галавы ў Расію. І не грымеў на ўвесь Піцер і ўсю Расію як лідар Пецярбургскага Савета рабочых дэпутатаў Леў Троцкі. Вярнуўшыся ў 1917 г. з дапамогай немцаў у Расію, ён пасля ліпеньскага путчу хаваўся ад паліцыі, а Троцкі, пабываўшы ў «Крестах» (ён нават сам папрасіў, каб яго арыштавалі), 2 верасня выйшаў з турмы, каб узначаліць Петраградскі Савет і здзейсніць у дзень свайго нараджэння, 7 лістапада, пераварот. І ён жа прыдумаў назву новага ўрада Расіі — Савет Народных Камісараў. І ён жа адмовіўся ад пасады старшыні гэтага ўрада («маё габрэйства»).

Калі на тое пайшло, ён уручыў Леніну ўладу, паднёс яе на талерачцы.

Троцкі, як кажуць цяпер, быў выдатны крызісны менеджар. Як арганізатар, ён быў незаменны ў час, калі вырашалася пытанне «быць альбо не быць?». Хто ведае, ці былі б створаны Чырвоная Армія і Чырвоны Флот, ці ўдалося б бальшавікам адстаяць уладу, калі б на чале разваленых тымі ж бальшавікамі расійскіх арміі і флоту не апынуўся Троцкі?

Ленін быў добры ў крэсле старшыні Саўнаркама, піша Луначарскі, але ён не мог бы справіцца з той тытанічнай задачай, якую ўзваліў на свае плечы Троцкі. З фронту на фронт, з аднаго ўчастка фронту на другі...

У мірны час, у час, калі ўлада была ўжо цвёрда ў руках бальшавікоў, Троцкі не мог доўга ўтрымацца

> «Мы не давяраем Крамлю ніякай гістарычнай місіі. Мы былі і застаемся супраць захопу Крамлём новых абласцей. Мы — за незалежнасць Савецкай Украіны і, калі самі беларусы гэтага жадаюць, Савецкай Беларусі».
>
> **Троцкі, 1939**

ва ўладзе. Хоць ён, рэвалюцыянер ад галавы да ног, і далучыўся ў 1917-м да бальшавікоў, стаў адным з іх лідараў, мараль у яго была небальшавіцкая. Цынізм Леніна быў адной з прычын разрыву з ім Пляханава. Як успамінаў расійскі сацыял-дэмакрат Уладзімір Вайцінскі, Ленін неаднаразова казаў, што партыя — не пансіён для шляхетных дзяўчат. І пры гэтым дадаваў: іншы мярзотнік можа быць для нас менавіта тым і карысны, што ён мярзотнік; у нас гаспадарка вялікая, а ў вялікай гаспадарцы ўсякая дрэнь прыдасца. Зноў жа, Вячаслаў Молатаў сцвярджаў, што Ленін умеў выкарыстоўваць усіх: і бальшавіка, і паўбальшавіка, і чвэрцьбальшавіка, але толькі пісьменнага.

Ленін быў больш апартуніст, а Троцкі — больш артадаксальны, чым Ленін. Тут я зноў спасылаюся на Луначарскага і дадаю: Троцкі быў занадта ідэйны, каб трываць ля сябе карыснага ці карыслівага мярзотніка і чвэрцьрэвалюцыянера. А яшчэ ён хацеў мець каля сябе не проста пісьменных, а добра падрыхтаваных работнікаў. І не забудзьма: у час грамадзянскай вайны ён быў бязлітасны да бальшавікоў — панікёраў, тых, хто наперадзе ўсіх уцякаў ад працоўніка, шкурнікаў і марадзёраў.

Гэтая прасталінейнасць, як піша Луначарскі, няўменне ці нежаданне быць ласкавым і ўважлівым да людзей асуджалі Троцкага «на пэўную адзіноту». І адсутнасць паблажлівасці да чалавечых слабасцяў, і памянёны ўжо снабізм... Сяброў і прыхільнікаў у яго было няшмат. І вось, супраць Троцкага, у асобе якога многія былі схільныя бачыць сапраўднага правадыра рэвалюцыі, супраць Троцкага, які ў 1917-м літаральна «грымеў у Петраградзе на мітынгах», супраць Троцкага, у асобе якога многія бачылі наступніка Леніна, выступіла большасць Цэнтральнага Камітэта бальшавіцкай партыі і практычна ўсё Палітбюро. Троцкага ненавідзелі, яго баяліся. Троцкага яшчэ больш узненавідзелі, калі смяротна хворы Ленін назваў яго самым здольным чалавекам у ЦК. Ён, рэвалюцыянер, асабліва зненавідны быў партыйна-савецкай бюракратыі, на чале якой стаяў Сталін.

Іншы раз задаюць пытанне: а што было б, калі б пасля смерці Леніна перамог Троцкі? Гісторык такога пытання не задасць. Затое ён не можа не адзначыць іншае: Сталін і сталінцы амаль усю канцэпцыю далейшага развіцця Савецкага Саюза літаральна «перадралі» ў Троцкага і трацкістаў. Нездарма ж Мікалай Бухарын назваў неатрацкізмам сталінскую палітыку паскоранай індустрыялізацыі і ўзмоцненай эксплуатацыі вёскі, ператварэння яе ва «ўнутраную калонію». А сам Троцкі назваў Сталіна і сталінцаў эпігонамі.

Выдаліўшы ў 1929 г. Троцкага з Савецкага Саюза, Сталін і сталінцы неўзабаве зразумелі, якую памылку яны ўчынілі.

Гісторык познесавецкай і ранняй постсавецкай гістарыяграфіі і паліталогіі не можа не адзначыць, што многія працы Троцкага, напісаныя на эміграцыі, расійскія аўтары разабралі на цытаты. Перш за ўсё «Сталінскую школу фальсіфікацыі», «Завешчанне Леніна» і біяграфію Сталіна. Апрача гэтых тэкстаў, мне, напрыклад, вельмі імпануе сацыялагічны аналіз савецкай сістэмы, здзейснены Троцкім у працы «Здраджаная рэвалюцыя. Што такое СССР і куды ён ідзе?» (1936). Тут трэба сказаць, што Троцкі разглядаў СССР як перароджаную рабочую дзяржаву і што яго за гэта крытыкаваў брытанскі марксіст Тоні Кліф, які ў 1955 г. апублікаваў кнігу «Дзяржаўны капіталізм у Расіі». Дык жа і Троцкі пісаў пра дзяржаўны капіталізм, пра таталітарны лад у СССР, пра тое, што ў партыйна-савецкай бюракратыі свядомасць паноўнага класа і што яна, бюракратыя, з'яўляецца новым класам (гэта яшчэ калі кнігу «Новы клас» напіша Мілаван Джылас!), які імкнецца ліквідаваць заваёвы сацыяльнай рэвалюцыі, каб стаць уласнікам маёмасці, якою распараджаецца. І стануць бальшавіцкія чынушы буржуямі...

Савецкі Саюз ідзе да скону — такая выснова прыходзіць у галаву, калі чытаеш кнігу Троцкага. Але сам Троцкі гэтых слоў не напісаў, бо яму трэба было б прызнацца, што дарма ён учыняў пераварот у 1917-м, дарма ездзіў у бронецягніку з аднаго канца краіны ў другі, дарма бараніў уладу бальшавікоў.

А яшчэ Троцкі сачыў за тым, што дзеецца на міжнароднай арэне, аналізаваў міжнародную сітуацыю і папярэджваў. Напрыклад: «Гітлер змагаецца супраць франка-расійскага саюза не з прынцыповай варожасці да камунізму (ніводзін сур'ёзны чалавек не верыць больш у рэвалюцыйную ролю Сталіна!), а таму, што хоча мець свабодныя рукі для пагадненням з Масквой супраць Парыжа» (1937). Але да яго не прыслухоўваліся, і ён з жалем канстатаваў тупасць еўрапейскага палітычнага класа: «Аўтар гэтых радкоў мае права спасылацца на бесперапынны шэраг уласных заяў у сусветным друку, пачынаючы з 1933 г., на тую тэму, што асноўнай задачай замежнай палітыкі Сталіна з'яўляецца дасягненне пагаднення з Гітлерам. Але наш сціплы голас заставаўся непераканаўчым для «вяршыцеляў лёсу». Гэта ў адным артыкуле. А вось што чытаем у другім: «Хто ведае, ці не давядзецца французскаму ўраду разам з бельгійскім, галандскім, польскім, чэхаславацкім шукаць прытулку ў Вялікабрытаніі?..». А загалоўкі артыкулаў — цуд: «Сталін — інтэндант Гітлера» і «Падвойная зорка: Гітлер—Сталін». Абодва напісаныя ў 1939-м.

«Крамлёўскі горац» не мог доўга цярпець няўрымслівага крытыка і выкрывальніка. Прысуд Троцкаму быў вынесены. Належала знайсці выканаўцу. І выканаўцу знайшлі.

...Можна прадказаць, якая будзе рэакцыя на гэты тэкст нашых антыкамуністаў, асабліва маладых, якія ні Маркса, ні Троцкага не чыталі, але сказануць могуць. Гэтым антыкамуністам я раю разгарнуць кнігу брытанскага кансерватара, крызіснага менеджара Уінстана Чэрчыля «Мае вялікія сучаснікі». Адно эсэ ў той кнізе прысвечана Льву Троцкаму.

А проста беларусам, мабыць, цікава будзе ведаць, што пісаў Троцкі ў артыкуле «СССР у вайне» 25 верасня 1939 г., калі Чырвоная Армія прыйшла ў Заходнюю Беларусь. А пісаў ён вось што: «Мы не давяраем Крамлю ніякай гістарычнай місіі. Мы былі і застаемся супраць захопу Крамлём новых абласцей. Мы — за незалежнасць Савецкай Украіны і, калі самі беларусы гэтага жадаюць, Савецкай Беларусі».

**Анатоль Сідарэвіч**



**Рамон Меркадэр**

забойца Троцкага, выйшаў з турмы ў 1960. Жыў у СССР, дзе атрымаў званне Героя Савецкага Саюза, і на Кубе. Памёр у 1978, пахаваны ў Маскве.



**Троцкі і Фрыда Кало**

58-гадовы рускі рэвалюцыянер і 30-гадовая мексіканская мастачка, жонка славутага Дыега Рыверы, мелі кароткі раман у 1937, падчас перабывання Троцкага ў Мексіцы. Але абое вярнуліся да законных сужэнцаў.

**Леў Троцкі**

(Лейб Давыдавіч Браншэйн) 26 кастрычніка [7 лістапада] 1879; вёска Янаўка, Елісаветградскі павет, Херсонская губерня, Расійская Імперыя (цяпер Бераслаўка, Кіравагградская вобласць, Украіна) — 21 жніўня 1940; Каяакан, Мехіка, Мексіка) — рэвалюцыйны дзеяч ХХ стагоддзя, ідэолаг трацкізму — адной з плыняў марксізму. Адзін з арганізатараў Кастрычніцкага перавароту 1917, адзін са стваральнікаў Чырвонай Арміі. У першым савецкім урадзе — наркам па замежных справах, у 1918—1925 — наркам па ваенных і марскіх справах. Ад 1923 — лідар унутрыпартыйнай левай апазіцыі. У 1927 зняты з усіх пасад, у 1929 высланы за межы СССР. Аўтар прац па гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Расіі. Быў двойчы жанаты, без скасавання першага шлюбу. Смяротна паранены агентам НКВД Рамонам Меркадэрам 20 жніўня 1940 у Мексіцы.

**Псеўданім «Троцкі»**

Прозвішча Троцкі меў наглядчык адэскай турмы, у якой малады Лейб Браншэйн апынуўся ў 1898 за палітычную дзейнасць. Магчыма, «у гонар» жорсткага турэмшчыка і быў узяты псеўданім, пад якім Троцкага ведаў цэлы свет.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**21 жніўня, у апошні дзень збору подпісаў за патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты, сябрамі Партыі БНФ была зладжаная акцыя «Праспект нацыянальнага сцяга». Удзельнікі планавалі стаяць з бел-чырвона-белымі сцягамі ад ратушы да Палаца спорту, але ўлады перакрылі пешаходны мост праз Нямігу. Сабралася ўсё кіраўніцтва мінскай гарадской міліцыі, праўда, абышлося без затрыманняў.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Барысаўскі БАТЭ ў Лізе чэмпіёнаў мінімальна перамог бялградскі «Партызан» — 1:0. На гульню прыехала некалькі сотняў фанатаў з Сербіі і Расіі, якія перакрыквалі нават барысаўскі сектар. Фаны «Партызана» славяцца сваім буйным норавам і называюцца «магільшчыкамі». На шчасце, да боек не дайшло.**



**Рэжысёр Валер Мазынскі завяршыў здымкі фільма пра Кастуся Каліноўскага. Наперадзе — мантаж. Галоўную ролю выконвае акцёр Раман Падаляка.**



БЕЛТА

**У Гродне адкрыўся Музей турэмнага побыту, перадае БелТА. Ён размясціўся ў самым цэнтры горада на рагу вуліц Кірава і Урыцкага ў непасрэднай блізкасці ад гарадзенскай турмы №1. Экспазіцыя музея распавядае пра гісторыю турмы і пакарання з часоў ВКЛ і да нашага часу. Асобныя часткі прысвечаны супрацоўнікам і кіраўнікам папраўчай установы, іншыя — асаблівасцям побыту арыштантаў, цяжару турэмнага жыцця, вядомым асобам, якія ў розны час адбывалі пакаранне ў Гродне. Сярод іх Напалеон Орда, Браніслаў Тарашкевіч, Паўліна Мядзёлка, Фелікс Дзяржынскі, Тамаш Грыб, Зміцер Дашкевіч, Мікалай Аўтуховіч... Апошніх, праўда, пакуль не згадваюць.**



**Жанчыны чарговы раз паказалі, што здольныя не саступіць «моцнаму полу» ва ўсім, і пачалі новую старонку вайсковай гісторыі, паспяхова скончыўшы адзін з самых цяжкіх курсаў баявой падрыхтоўкі — курс рэйнджараў арміі ЗША. Кваліфікацыйны знак рэйнджара — знак найвышэйшай фізічнай здольнасці, наяўнасці парашутнай, горнай, разведвальнай, дыверсійнай і штурмавой падрыхтоўкі. Такі знак — гонар любога амерыканскага вайскоўца.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Вясковая крама гарэла, але вяскоўцы не спяшаліся тушыць. Усе чакалі, калі згарыць той самы ссытак...

* * *

Нясецца па вуліцы хуткая дапамога:

— Мы яго губляем... мы яго губляем...

— Сястра, зачыніце нарэшце дзверы, пакуль ён цалкам не вываліўся!

* * *

Размаўляюць два палітолагі:

— Слухай, ты можаш зразумець, што наогул адбываецца?

— Табе растлумачыць?

— Ды не, растлумачыць я і сам магу. Ты зразумець можаш?

* * *

Расія, 2015 год.

— Вашаму раёну загадана знішчыць сто тон сыру.

— Але ў нас столькі няма!

— Ну не ведаю, у Францыі купіце.

* * *

Здавалася б, курс ужо 20 500, а пра чупакабру — ні адной навіны.

## Шаноўныя чытачы, наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе ў сераду 9 верасня. Багатага вам ураджаю бульбы!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Івянец, Мінская губернія.** У цяперашнія часы з патайнымі шынкамі надта трудна змагацца, бо самі людзі бароняць і хаваюць такія шынкі. Трэба, каб мяшчане і валасць зрабілі сход і пастанавілі прыгавор не дапушчаць патайных шынкоў ды вызначылі ад сябе паважнейшых гаспадароў, каб пільнавалі другіх і назначалі штрафы на тых, каго зловяць шынкуючы водку.

**«НН». №35. 1910.**

**Выконваючы ўказ** пра забарону словаў «беларускі» і «нацыянальны» ў назвах, газеты падалі ў Мініфармацыі заяўкі на перайменаванне. «Белорусская деловая газета» мае назваць «БДГ — деловая газета». «Нацыянальная эканамічная газета» — «Эканамічная газета», «Белорусская газета» — «Белгазета», «Белорусский рынок» — «Белорусы и рынок». У верасні выданні маюць перайсці на новыя назвы.

**«НН». №32. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 25.08.2015.
Замова №3166.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 15032